АД. СТАНКЕВІЧ

# ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД

VILNIUS — 1940 — ВІЛЬНЯ

АД. СТАНКЕВІЧ

# ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД

*(Спроба сынтэзы)*

ВІЛЬНЯ 1940
Выд.: Беларускага Каталіцкага Выдавецтва
Бел. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, вул. Завальная 1.

*ПРАЦА ГЭТА ВЫДАНА*
*Ў ЧЭСЬЦЬ 950-ГОДЗЬДЗЯ*
*ХРОСТУ БЕЛАРУСІ*
*(988-9—1938-9)*

---

*У 25-ТЫЯ ЎГОДКІ*
*СЬВЯТАРСТВА АЎТАРА*
*(28.XII.ст.ст.1914—28.XII.39)*

* * *

*У 1938/9 г. прыпадаў юбілей 950-годзьдзя хрышчэньня „Русі“, гэта знача: Украіны, Беларусі й Расеі. У чэсьць гэтага вялікага юбілею шмат пісалі Украінцы й Расейцы. Не асталіся ад іх і мы Беларусы. Доказам гэтага, ня лічачы большых і меншых артыкулаў у беларускай пэрыёдычнай прэсе, — служыць так-жа й гэтая скромная праца.*

*Мае яна сваю гісторыю. Прадусім вырасла яна з праектаванага большага артыкулу ў літаратурна-навуковы журнал „Калосьсе“. У самым аднак працэсе пісаньня аказаллся, што рамы артыкулу для гэтай ирацы вузкія й замест артыкулу паявілася кніжка. Калі праца гэта збольшага была скончана, 15.XII.38 г. польская паліцыя даручыла мне загад Віленскага Ваяводы Баціянскага аб высяленьні мяне на пяць гадоў з граніц Віленскага Ваяводства.*

*27.XII.38 г., захапіўшы з сабой між іншым рукапіс працы „Хрысьціянства і Беларускі Народ“, апынуўся я ў Слоніме. Тут, ня маючы адпаведнай бібліятэкі, ня меў я магчымасьці належна рукапіс праверыць і паправіць.*

*Галоўнай мэтай гэтай працы было: маючы на ўвеце беларускую духовую разрозьненасьць, крытычна карыстаючы з расейскіх і польскіх адпаведных крыніц, у форме папулярна-навуковай папрабаваць шукаць „беларускай праўды“, беларускай рэлігійнай і нацыянальна-культурнай сынтэзы й прадставіць роль у гэтай справе Хрысьціян-*

*ства ў Беларусі. Наскольki гэта мне удалося — няхай судзе грамадзянства.*

*Прыходзілася чуць закід, што я дзіўна многа прыпісваю Хрысьціянству ў Беларусі нейкай асаблівай сынтэзуючай сілы й сілы, творачай народнасьць, калі гэта Хрысьціянства ў нас пераважна было й ёсьць далей хутчэй сілай дзелячай і дэнацыяналізуючай народ. Закід гэты праўдзівы, калі разважаць у нас хрысьціянства паддзельнае, палітычнае — расейскае й польскае, і сусім безпадстаўны, калі разважаць Хрысьціянства ў самай яго сутнасьці, аб што мне ў гэтай працы прадусім і ішло.*

*17.IX.39 г. здарыліся вялікія падзеі: савецкая чырвоная армія заняла землі Заходняй Беларусі, якія ўвайшлі ў склад Савецкай Беларусі. Польшч адыйшла да Нямеччыны і, як незалежная дзяржава, існаваць перастала. 28.X.39 г. Вільню, як адвечную сталіцу Літвы, заняла літоўская армія. Я, як жыхар Вільні й літоўскі грамадзянін, із Слоніма пераехаў у Вільню.*

*Бадай уся праца „Хрысьціянства і Беларускі Народ“ друкавалася ў часапісе „Хрысьціянская Думка“. У новых абставінах часапіс гэты выходзіць перастаў і два-тры канчаткавыя аркушы прышлося дадрукаваць асобна.*

*Кніжка гэта празначалася для шырокіх беларускіх кругоў прадусім Заходняй Беларусі й затым надрукавана гражданкай. Сяньня яна ўжо была-б пажадана лацінкай. Але сталася: тых падзеяў, якія адбыліся ў верасьні й кастрычніку 1939 году на беларускіх і літоўскіх землях, ніхто ня мог прадбачыць.*

АД. СТ.

*Вільня, 14.XI.39.*

---

I

## Веліч і значэньне Хрысьціянства

*Сонца й жыцьцё. Хрысьціянства і душа чалавека. Хрысьціянства й культура. Хрысьціянства панад часам і прасторам. Агульнае значэньне Хрысьціянства. Скромная гэта праца—у чэсьць 950-годзьдзя Хросту Беларусі.*

Сонца — яго сьвет і цяпло — зьяўляецца першай і найважнейшай умовай жыцьця на сьвеце. Без яго быў-бы застой і бязладзьдзе. Бяз сонца ня можам мы сабе і прадставіць жыцьця ў прыродзе. Дзеля-ж гэтага яно шчодра дарыць сваімі дзіўнымі дарамі ўсю прыроду, ня вылучаючы і чалавека. Яно на ўсіх і на ўсё сьвеціць, усіх і ўсё грэе, яно ўсіх і ўсё сваім цяплом і сьвятлом пранікае, паклікае да жыцьця і ўсяму жывому стварае ўмовіны, у якіх яно можа жыць, разьвівацца і гэтак спаўняць сваю таёмную жыцьцёвую ў прыродзе мэту. Так дзіўна ёсьць шчодрым сонца, што яно і тады дарыць нас сваімі дарамі, калі мы гэтага не заўважваем і не спасьцерагаем і аб гэтым ня думаем. Яно разсеяна ў прыродзе, яно там існуе

спосабам нават таёмным, укрытым. Бо-ж і агонь, які чалавек у align="" рознай форме і розным спосабам дабывае на свае жыцьцёвыя патрэбы, — гэта ўкрытае сонца. Толькі да таго не даступныя дары сонца, хто ад яго хаваецца.

Тое, што наглядаем у адносінах сонца да прыроды, мае дзіўнае падабенства, аналёгію ў адносінах Хрысьціянства да душы чалавека, у адносінах да яго духовага жыцьця. Нікога яно ня вылучае, ад нікога ня крыецца, прад нікім не зачыняе сваіх дараў, усім сьвеціць, усіх і ўсё грэе. Ня было і няма на сьвеце такой тэорыі, такой навукі, такой духовай тэорэтычнай сыстэмы, якая была-б так унівэрсальнай, і так разам індывідуальнай, так простай і так складанай, так звычайнай і так бяздонна глыбокай, так блізкай і так далёкай, так чалавечай і так разам надчалавечай, так штодзеннай і так вечнай, як навука ўбогага Назарэйчыка Ісуса Хрыста. Хрысьціянства толькі да таго не дастаецца і не пранікае, хто сьведама яго ня хоча і сьведама ад яго стараніцца. Але і гэткія, нясьведама для сябе, як-жа многа карыстаюцца дарамі Хрысьціянства, аддыхаюць ім, яго вечна жывымі сокамі кормяцца! Нават самыя ярыя яго ворагі ня могуць выйсьці з арбіты яго ўплываў і як-жа часта самі да таго-ж імкнуцца, што прыносе Хрысьціянства і з чым яны барацца. Ці-ж лятуценьні марксістаў аб справядлівым, без дамешкі крыўды, сацыяльным на сьвеце ла-

дзе ня ёсьць адгалоскам Хрыстовага валадарства?!

Вялікае значэньне Хрысьціянства ў духовым жыцьці чалавецтва. Сьведча аб гэтым уся гісторыя людзкой культуры. Дайшлі да нас забыткі культуры клясычнай—скарбы старадаўнай навукі і мастацтва, бо гэта ўсё перахаваў Касьцёл і абараніў, каб ня зьнішчылі дзікія народы, што падчас вандроўкаў нахлынулі на Эўропу. Ды касьцёл не агранічыўся абаронай і перахоўваньнем гэных забыткаў — ён гэта ўсё разьвіваў і дапаўняў і на гэтым тварыў ужо сваю хрысьціянскую культуру. Чым быў Каталіцкі Касьцёл для культуры ў Зах. Эўропе, тым была Праваслаўная Царква ў бліжэйшай Азіі і на ўсходзе Эўропы.

Айцы Царквы-Касьцёла, як усходнія, так і заходнія: Клемэнс Александрыйскі, Тэртульян, Орыгенэс, Атаназы, Базыль Вялікі, Рыгор з Ніссы, Рыгор з Наз'янзу, Геронім, Аўгустын і інш., як-жа прыгожаператварылі ў духу хрысьціянскім галоўныя прынцыпы грэцкіх і рымскіх філязофаў! Было так-жа Хрысьціянства крыніцай натхненьня і арыгінальнай філязофіі. Прыкладам гэтага між іншым зьяўляецца ў сярэднявеччы такі волат філязофічнай думкі, як сьв. Тамаш Аквінскі, а з новых вялікі расейскі хрысьціянскі мысьліцель Уладзімер Салаўёў.

Агулам найвялікшыя мысьліцелі і мастакі слова, гукаў і формы чэрпалі сваё натхненьне

з Хрысьціянства. Штож-бы асталося напрыклад з Гетавага Фаўста, калі выкінуць з гэтага твору ўсе хрысьціянскія (каталіцкія) элемэнты? А штож-бы асталося ў найвялікшых галерыях сьвету, калі-б з іх забраць усе шэдэвры markrознага роду мастацтва, якія створаны пад уплывам Хрысьціянства?

Як-жа абяднеў-бы Беларускі музэй, калі-б забраць з яго забыткі, якія стварыла хрысьціянская ідэя! Не пазнаў-бы тады яго і ягоны тварэц: закладчык і сабіральнік Іван Луцкевіч. Як-жа зьбяднела-б наша мастацтва, калі-б забраць ад яго хрысьціянскую архітэктуру, разьбу, малярства! Як-жа выглядалі-б сяньня гарады, як на захадзе Эўропы, так і на ўсходзе, калі-б забраць з іх мастацкія касьцёлы і цэрквы, вобак якіх павырасталі чыны хрысьціянскай асьветы і дабрадзейнасьці: школы, шпіталі, прытулкі! Няма бадай ніякай галіны культуры, дзе-б Хрысьціянства ня выказала свайго творчага, дадатняга ўплыву.

Сьнежныя высокія горы, здаецца, усьцяж падымаюцца вышэй у меру таго, як мы ад іх далей адходзім. Па іх мы ар'ентуемся ў дарозе, яны ўсьцяж прад нашымі вачыма. Так і з Хрысьціянствам: мінаюць вякі, праносяцца яны часта над чалавецтвам, як буры вялікія, якія выварачваюць уверх дном і нішчаць народы, дзяржавы, выказваюць аджытасьць і недарэчнасьць сыстэмаў чалавечай мудрасьці, руйнуюць гра-

мадзкі, часта вякамі ўстаноўлены і традыцыяй асьвячаны, грамадзкі лад. А Хрысьціянства, у гэтай завярусе, з пад гэтай руіны і грузаў, выглядае яшчэ больш прынадным, яшчэ больш сьвежым і новым, яшчэ больш жыцьцетворчым. Зуб часу, які ўсё зьядае, руйнуе і зьмяняе, Хрысьціянства не датыкае—яно над час і над прасторы. Яно, як тыя высокія беласьнежныя горы, яшчэ больш высокім і стройным нам прадстаўляецца, чым далей у часе і прасторы ад нас адыходзе.

У 1938-39 годзе спаўняецца 950 гадоў, як Хрысьціянства паявілася на землях беларускага народу. 988-9-ы год нашай эры ёсьць тым годам, калі над Беларусяй зазьялі сьветлыя касулькі Эвангельля, нясучы нашаму народу новую эру, новую праўду, новае жыцьцё, нясучы культуру.

Вось-жа дачакаліся Беларусы вялікага юбілею — 950-годзьдзя свайго хрышчэньня. Сьяткуем мы гэты вялікі юбілей, на жаль, толькі тут, па гэтай старане савецка-польскай граніцы, бо там, у БССР, сьвяткаваць гэтага юбілею няможна, так як няможна вызнаваць, верыць і служыць Хрысту, няможна там усяго гэтага, бо там — о, іронія! — «найбольшая на сьвеце свабода, бо там найідэальнейшая на сьвеце дэмакрацыя!» Дык тым больш шчыра і хоць скромна, але з вялікай верай і любоўю сьвяткуем мы тут гэты так вялікі, гэты так рэдкі юбілей.

Гэтыя 950 гадоў існаваньня ў нас Хрысьціянства вымагалі-б іншага адзначэньня, як гэта скромная наша праца, але на нішто іншае яшчэ сяньня мы здабыцца ня можам. Цэлыя аграмадныя тамы трэба было-б пісаць, каб хоць збольшага адзначыць: догматычна-рэлігійныя, нацыянальныя, культурныя, грамадзкія, этычныя і інш. цэннасьці, якія беларускаму народу прынесла Хрысьціянства.

Пад подыхам хрысьціянскай рэлігіі і этыкі ажывілася і ўзбагацілася беларуская народная душа. Паўсталі хрысьціянскія сьвятыні, манастыры, школы, установы хрысьціянскай міласэрнасьці.

Зьмякчэньне абычаяў у народзе, спыненьне самаволі князёў, баярства і рыцарства, яўнае рашаньне важных дзяржаўных спраў на вечы і збратаньне на ім-жа ў вадну сям'ю вышэйшых слаёў грамадзянства з народам — гэта ўсё сацыяльныя плады сьв. Эванэліі. І не дагадваюцца пэўне тыя Беларусы, якія сяньня вольна ці нявольна пакланяюцца Марксу, што гэта іх «вера»—гэта толькі далёкі-далёкі адгалосак, толькі жалосная карыкатура тых сацыяльных ідэалаў, якія прынесла Беларускаму народу Хрысьціянства.

Хрысьціянства — гэта найбольшая на сьвеце *Рэлігія*, бо аб'явіў нам яе Сын Божы, Ісус Хрыстос. Але Хрысьціянства гэта ня толькі Ве-

ра наша, ня толькі навука аб тым, як і ў што мы маем верыць, але так-жа гэта навука і аб тым, як і што мы маем рабіць, як маем паступаць. Хрысьціянства — гэта так-жа *навука і аб нашай этыцы*, аб нашай маральнасьці. А гэтая хрысьціянская навука аб веры і маральнасьці сапраўды вялікая, найбольшая за ўсю мудрасьць чалавечую, бо гэтая хрысьціянская навука гэта навука Божая.

Хрысьціянства прынесла беларускаму народу *культуру і прасьвету*. Тыя ўсе апосталы, што несьлі нашаму народу Хрыстовую навуку, пашыралі яе пры помачы ня толькі жывога слова, але так-жа і пры помачы кніжкі, пры помачы граматы. Такім чынам пісьменства і агулам граматнасьць у Беларусь прынесла Хрысьціянства. Апрача гэтага Хрысьціянства, пашыраючыся сярод нашага народу, улучыла гэты народ у вялікую сям'ю культурных народаў усяго хрысьціянскага сьвету, нясучы нам будаўніцтва, малярства, музыку, навуку, права.

Хрысьціянства прынесла ў Беларусь глыбейшае *паняцьце грамадзкай справядлівасьці*, бо яно першае пачало вучыць аб любові бліжняга аб справядлівасьці, апёртай не на сіле, а на праўдзе, яно першае пачало вучыць аб тым, што найбольшым ворагам чалавецтва — гэта ёсьць злая воля чалавека, чалавечае самалюбства і што з гэтым самалюбствам у імя агульнага дабра трэба рашуча змагацца.

Хрысьціянства магутна *прычынілася да паўстаньня беларускай нацыянальнасьці,* скрапляла і аберагала яе, падтрымлівае, разьвівае і аберагае гэтую нашу нацыянальнасьць і сяньня. Прадусім трэба ведаць, што Хрысьціянства прыйшло ў славянскай мове, якая тады была так-жа роднай і зразумелай і для Беларусаў і для Украінцаў і для Расейцаў. Пасьля, калі беларускі народ вырас у сусім асобную нацыю і выдзяліўся з агульна славянскай сям'і і стварыў сабе сваю асобную мову, Хрысьціянства заўсёды гэтую яго мову паддзержвала і разьвівала. Ведама, тут не гаворым аб тых пэрыядах у гісторыі беларускага народу, калі Хрысьціянства бывае прымушана сярод беларускага народу карыстацца чужой мовай і прычыняцца ўжо не да ўмацаваньня беларускай мовы і беларускай культуры, але да зьністажэньня гэтага ўсяго. Аб гэтым — кажам — тут не гаворым, бо гэта ня віна Хрысьціянства, але тых палітыкаў, якія, аб Хрысьціянстве забыўшыся, запрэглі яго ў сваю палітыку.

Сяньня так-жа Хрысьціянства ў нас—гэта вялікая сіла нашага Беларускага народу, яго культуры і поступу. Сяньня для нас найвялікшыя ворагі—гэта *бязбожны камунізм,* які ёсьць запярэчаньнем усякай свабоды і праўдзівай культуры, а так-жа запярэчаньнем усякай *нацыянальнасьці.* Ня меншым зьяўляецца для нас ворагам і ўсякі *зьвярыны нацыяналізм* (расізм, фа-

шызм, скрайні нацыяналізм), якія так-жа не прызнаюць над сьветам Бога, не прызнаюць правоў адзінкі і правоў слабейшым нацыям на іх свабоднае існаваньне, а прызнаюць толькі фізычную сілу—дзяржаву, якой павінна служыць і падпарадкавацца ўсё.

Сапраўднай сілай, якая сяньня проціўстаўляецца гэтым варожым чалавецтву і Беларускаму народу кірункам, гэта ёсьць Хрысьціянства. Тымбольш Хрысьціянства ёсьць гэтай апорай і сілай, што яно — сіла ня фізычная, сіла ня кулака, а сіла маральная, духовая, апёртая на адвечным фундаманце Божага права. Яно ёсьць апорай правоў чалавека, правоў на самабытнае існаваньне ўсіх народаў, апорай іх уласнай культуры і праўдзівага поступу.

Словам, Хрысьціянства — гэта вялікі наш скарб, які мы павінны берагчы як найбольш старанна і верна. Праўда, нам часта розныя варожыя сілы гэтае Хрысьціянства ад нас засланяюць, робяць з яго аружжа варожай нам палітыкі і паказваюць нам часта карыкатуру Хрысьціянства. Але гэта ўсё нас не павінна зьбіваць з дарогі і адбіваць ад праўдзівага Хрысьціянства, вольнага ад палітычных дамешак.

Але ўсе гэтыя цэннасьці Хрысьціянства ўсестаронна апісаць, на жаль, сяньня нам не пад сілу. І таму мы агранічваемся толькі да гэ-

тай скромнай тэмы: «Хрысьціянства і Беларускі Народ», падчоркваючы прадусім роль Хрысьціянства ў працэсе тварэньня і захаваньня беларускай нацыянальнасьці і яго агульна-культурнае значэньне.

---

## II

## Час і абставіны паяўленьня Хрысьціянства: грэка-лацінская культура, Беларусь і Беларускі Народ

*Гео-палітычныя абставіны, у якіх прыйшоў на сьвет Хрыстос. Беларусы: іх прагісторыя, паходжаньне, разсяленьне беларускіх плямён; назоў: беларускі; Полацкае князьства — апора і асяродак палітычнай самастойнасьці беларускіх князьстваў у IX—XIII ст.*

Калі зьявіўся на зямлі сярод людзей Хрыстос (за часаў рымскага цара Аўгуста: 30 г. да Нар. — 14 па Нар.), над тагачасным сьветам панавала магутная і вялікая рымская імпэрыя. У склад яе тады ўваходзілі землі ўсей паўдзённай і заходняй Эўропы, землі Малой Азіі, а такжа пабярэжжа Афрыкі з Эгіптам. Усе нязьлічаныя народы гэтых зямель, — апрача славян, з якіх паўстаў народ беларускі, а аб якіх яшчэ тады гісторыя ня ведала нічога, — былі падданымі гэнай сапраўды вялікай і магутнай Рымскай імпэрыі.

Вось-жа на прасторах гэтай дзяржавы сьпярша панавала вялікая грэцкая (Грэцыя заваявана Рымлянамі ў 146 г. да Нар. Хр.) культура, а пасьля няменш вялікая культура лацінская. У далейшым сваім разьвіцьці гэтыя культуры сьпярша ўзаемна ня выключаліся, аднак пад уплывам гістарычных абставін свайго далейшага разьвіцьця яны паволі сусім разыйшліся і разгранічыліся — лацінская затрымалася прадусім на Заходзе і часткова на паўдні Эўропы, а грэцкая на паўдні Эўропы і ў Малой Азіі.

Такое разграніченьне гэных культур асабліва пачало паглыбляцца ад таго часу, калі Рымскі імпэратар Хвядос Вялікі імпэрыю сваю (395 г.) падзяліў між сваімі сынамі на Усходнюю і Заходнюю і калі ўрэшце (476 г.), пад напорам германскіх дзікіх плямён, імпэратар Заходняй Рымскай імпэрыі Ромул Аўгуст быў ськінуты з трону, а землі гэтай імпэрыі былі заваяваны, і на іх з бегам часу паўсталі новыя народы і новыя дзяржавы.

Усходняя-ж частка Рымскай імпэрыі, гэта тая частка, дзе панавала грэцкая культура, званая Візантыяй, існавала далей, аж пакуль ня была заваявана Туркамі ў 1453 г. Асяродкам галоўным дзейнасьці культуры лацінскай быў Рым, а культуры грэцкай — Кастантынопаль, ці як тады звалі — Царгорад.

Дык зразумелая рэч, што Хрысьціянства, сеянае на землях гэтых дзьвёх культур, адно

што да сваей сутнасьці, вырастала аднак рознае што да яго разуменьня і што да формы. Праменьні Хрыстовай навукі як-бы пераломліваліся ў душах народаў з рознымі культурамі і цалком розна, а часам нават супярэчна, праяўляліся.

Урэшце ў VI в. па Нар. Хр. ужо гісторыя пачынае гаварыць аб славянах, якія, з прычыны вандроўкі народаў (IV—IX ст.), прыйшоўшы на зьмену скіфаў, сарматаў, фінаў, балтаў (літоўцы і латышы) і інш., або і не застаючы нікога, займалі ўсходнія і паўдзённа-усходнія землі Эўропы, якія ўжо нападалі на суседнюю Візантыю і з усходняй часьціны якіх, як убачым ніжэй, паўстаў у сваім часе і народ беларускі.

Народ беларускі сваё гістарычнае жыцьцё на цяперашніх беларускіх землях пачынае з VIII—IX ст., калі паўстаюць ужо ведамыя сярод беларускіх пляменьняў князьствы. Яны займалі прастор усіх цяперашніх беларускіх зямель. Найсільнейшым з іх было князьства Полацкае, дайшоўшае найбольшай славы, магутнасьці і самастойнасьці пры слаўным беларускім князі Усеславе (1101). Час гэты — гэта першы, так званы полацкі пэрыяд у беларускай гісторыі, пэрыяд самастойнага палітычнага жыцьця Беларусаў.

Затрымаліся мы крыху над гісторыяй, географіяй і культурай тагочаснага чужога сьвету, каб пасьля лягчэй зразумець гістарычныя



падзеі Хрысьціянства агулам, а прадусім частку яго — гісторыю Хрысьціянства на беларускіх землях, на лёсы якой гэны старадаўны сьвет меў і мае сяньня сапраўды вялікі ўплыў.

Але дзеля гэтага трэба так-жа крыху бліжэй запазнацца і з мінуўшчынай Беларускага народу.

Беларускі народ паходзіць ад славянаў, а славяне паходзяць ад племені, якое завецца арыйскім, або інда-эўрапэйскім. Калыскай арыйцаў быў Іран (сяньняшняя Пэрсія і Афганістан). Арыйцы, разросшыся ў сваей бацькаўшчыне ў вялікі народ, мусілі шукаць для сябе новага месца. Вось-жа адны з іх пайшлі на ўсход і поўдзень — у Індыю, а другія — на захад, у Эўропу. Сярод гэтых апошніх былі славяне і літоўцы, якія займалі ўсходнія прасторы паміж Карпатамі і Балтыцкім морам. Пераход гэты адбываўся паступова і паволі. Пачатак яго сягае на некалькі тысяч гадоў прад нараджэньнем Хрыста, а канчатак на тысячы дзьве перад Хрыстом. Славяне, жывучы між Карпатамі і Балтыкам, на захад ад сябе мелі германцаў, на ўсход скіфаў і сарматаў, на поўнач фінаў. Закінутыя далёка ад культурных цэнтраў, вялі яны жыцьцё прымітыўнае, някультурнае. Ніякай ролі сярод іншых народаў яны яшчэ тады ня йгралі і гісторыя аб іх тады яшчэ нічога ня знала. Але здарылася падзея, якая зрушыла славян з месца і нарушыла іх дагэтулешні су-

пакой. Гэтая падзея ведамая ў гісторыі, як вялікае перасяленьне народаў, якое трывала ад IV да IX ст. па нарадж. Хрыста. У часе гэтага перасяленьня ці вандроўкаў народаў непакоілі славян дзікія народы гунны, авары, а найбольш готы, якія праходзілі праз славянскія землі ад мора Балтыцкага аж да Чорнага, дзе ў IV ст. заснавалі сільную дзяржаву. Нямала даваліся ўзнакі славянам так-жа і фінскія мадзяры або вугры, якія нешта ў IX ст. занялі славянскія землі, дзе асталіся і да сяньня.

Вось-жа славяне, дзеля націску на іх сваіх суседзяў і далейшых чужынцаў, а так-жа дзеля цеснаты на сваей прабацькаўшчыне (землі між Карпатамі, Дняпром, Прыпяцьцю і Віслай), павінны былі пасоўвацца далей, у іншыя староны. Такім чынам адна часьць з іх пайшла на поўдзень, за Дунай, на Балканы і пад Адрыятыцкае мора,—гэта паўдзённыя славяне: баўгары, сэрбы, харваты або кроаты, і славенцы. Іншыя-ж славяне паціснулі на захад—гэта заходнія славяне: славакі, чэхі, моравяне, сэрбы лужыцкія, або палабскія, люцічы, памаране. Да гэтай заходняй групы належаць так-жа і польскія, або як іх называлі — ляшскія плямёны: вісьляне, мазуры, паляне, сьлезане, з якіх пазьней утварыўся Польскі народ.

На ўсход падаліся плямёны ўкраінскія: паляне надпадняпроўскія, севяране, драўляне, дулебы, бужане, вуглічы. Далей на паўночны ўсход

пайшлі вяцічы, з якіх, зьмяшаных пасьля з фінамі, паўстаў народ Расейскі, а проста на поўнач пайшлі: крывічы, радзімічы, дрыгавічы, а часткова северане і вяцічы, з якіх утварыўся народ Беларускі. Украінскія, расейскія і беларускія плямёны належаць да групы славян усходніх.

Гэты разыход славянскіх плямёнаў адбываўся паступова, пачынаючы ад IV і да якога VIII ст. У VIII—IX ст. усе славяне ўжо былі разьмясьціўшыся на тых землях, якія яны займаюць і сяньня. Паўдзённыя і заходнія славяне выходзяць на гістарычную арэну ўжо ў VII—VIII ст., а ўсходнія толькі ў IX.

Запытаемся-ж цяпер, каго засталі, ці каго зьмянілі беларускія плямёны, калі прыйшлі на сяньняшнія свае землі? Магчыма, што некалі, прынамсі часткова, засялялі беларускія землі скіфы, пасьля сарматы, а па іх літоўцы і фіны, якіх і зьмянілі нашыя плямёны. Асабліва гэта датыча крывічоў і радзімічоў. Можа адны толькі дрыгавічы былі аўтахтонамі (першымі насельнікамі) свайго краю, беларускай часьці сяньняшняга Палесься.

Дзе-ж пасялілася кожнае беларускае племя? Крывічы на абшары паміж Нёманам, Вяльлёю, Дняпром, горнаю Волгаю аж пад Ноўгарад і Пскоў. Радзімічы пасяліліся на ўсход ад Дняпра па берагох ракі Сожы (даўнейшая Магілёўская губэрня). Дрыгавічы занялі ўвесь поўдзень Беларусі: усю даліну Прыпяці разам

з паўночнымі яе прытокамі па Бабруйск, Менск, Наваградак, Горадню. Вось з гэтых галоўных трох беларускіх плямёнаў утварыўся беларускі народ. У склад беларускага народу ўвайшлі яшчэ, прынамсі часткова, так-жа северане, што жылі па рацэ Дзясьне (часьць Чарнігаўшчыны) і вяцічы, што жылі ў вярху ракі Акі.

Асяданьне славянскіх плямёнаў, продкаў успомненых народаў, а так-жа ўкраінскага, беларускага і расейскага, на тых землях, на якіх яны сядзяць і сяньня, адбывалася на працягу пару вякоў — ад VII да IX ст. За гэтых пару сот гадоў наступіла дыфэрэнцыяцыя адзінага славянскага племені. Сутнасьць гэтай дыфэрэнцыяцыі ў тым, што гэтае, некалі адно славянскае племя, распалася на славян заходніх, усходніх і паўдзённых і што гэты працэс дыфэрэнцыяцыі прадаўжаўся і далей. Сярод усходніх славянаў сваім парадкам адбываецца гэны працэс і паяўляецца цэлы рад асобных славянска-«рускіх» плямён, з якіх паўстаюць тры асобныя народы на сучаснай беларускай, украінскай і вялікарускай тэрыторыі. Разсяленьне гэта аканчальна ўцьвярдзілася ў IX ст. У гэтым часе, ад IX да XIII ст., на сучасных беларускіх этнографічных землях былі ўжо настала асеўшы славянскія сваяцкія плямёны: крывічы, дрыгавічы, радзімічы, часьць северан і часьць вяцічоў, якія зьліліся ў адзін народ, што пазьней стаўся звацца беларускім.

Чаму наш народ завецца *„беларускім“?* Чаму *„белым“* — навука дагэтуль ня вырашыла. Адны кажуць: затым, што «белы» значыла некалі тое, што вольны, а беларускі народ ніколі ня быў у татарскай няволі, дык затым яго і яго край называлі белым. Іншыя гэты назоў выводзяць ад белага колеру вопраткі, які даўней Беларусы дужа любілі, іншыя ад сьветлых валасоў у Беларусаў і г. д. А часам наш народ апрача «белы» завецца *„рускім“,* дык тут справа вось у чым. Калі ўсе вышапісаныя славянскія плямёны занялі сяньняшнія свае землі, скандынаўскія (нарманскія) ваякі-варагі з племя «рус», дзеля гандлю і звычайнай нажывы, з поўначы часта праз славянскія землі прабіраліся на паўдзён аж да сталіцы Візанцыі Царгораду, па дарозе заваёўвалі славян, а заваяваўшы, тварылі ў іх дзяржаўнае жыцьцё. Такім чынам першыя князі, якія пачалі арганізаваць славян, былі князі паходжаньня варага-рускага, ад якіх і ўсе ўсходня-славянскія плямёны атрымалі агульную назову: рускіх. Гэныя заваёўнікі, якіх агулам, у параўнаньні з славянамі, было мала, хутка, мажа ў якім ужо другім пакаленьні, праз жаніцьбу зьмяшаліся з славянамі, асыміляваліся і сусім, можна сказаць, сталіся славянамі, пакідаючы толькі назоў: *рускі, русінскі, расейскі, беларускі, беларусінскі.*

Украінцы, як ведаем, закінулі цалком гэты сапраўды чужы назоў і завуцца Ўкраінцамі. Ра-

сейцы трымаюцца яго. Магчыма, што некалі і нам Беларусам прыдзецца гэты чужы назоў пакінуць і назвацца *крывічамі,* як гэта ўжо некаторыя беларускія вучоныя робяць, а гэта праз увагу на тое, што крывічы, — гэта найвялікшае племя, якое ўвайшло ў склад нашага народу і што князі гэтага племені, князі крывіцкай зямлі, на пачатку беларускай гісторыі найбольш выказалі імкненьняў да незалежнасьці, найбольш гэтай незалежнасьці баранілі, найдаўжэй незалежна трымаліся і агулам тварылі самабытны беларускі цэнтр: палітычны, эканамічны, сацыяльны, культурны. Але справа назову— гэта справа будучыні. Нас тут далей цікавіць што іншае. Вось-жа гэныя варагі-русы бадай першы найсільнейшы славянскі палітычны цэнтр стварылі сярод плямён украінскіх. Першыя гэтыя іх князі-арганізатары: Рурык, Алег, Ігор былі іменна варагі-русы. З іх-жа паходзіў ужо саславяншчаны і Уладзімер Вялікі, за якога часаў і зь якога прычыны прыйшло да гэтых славян сьвятло Хрыстовай навукі.

Сьпярша паўставалі паасобныя славянскія князьствы. Пасьля некаторыя князі з гэтых розных самастойных князьстваў пачалі тварыць суцэльную адну дзяржаву. Адным з галоўных гэткіх князёў быў той-жа Уладзімер, які княства ўсіх гэтых усходня-славянскіх плямён стараўся злучыць у вадну вялікую дзяржаву са сталіцай у Кіеве. За яго часаў існавалі ўжо гэткія бела-

рускія самастойныя княсьтвы: Полацкае, з горадам Полацак, аб якім ужо гісторыя ўспамінае ў 862 г., Смаленскае, з горадам Смаленскам з IX ст., Віцебскае, Менскае, Тураўскае, Аршанскае, Друцкае, Лукомльскае, Мсьціслаўскае, Ізяслаўскае, Лагойскае, Слуцкае, Наваградзкае, Несьвіскае, Турава-Пінскае, Мозырскае, Клецкае, Сьвіслацкае, Барысаўскае і інш. Уладзімер прыгортваў гэтыя княсьтвы да кіеўскага княсьства, якое назваў вялікім і замацоўваў іх за сабой тым спосабам, што раздаваў іх сваім сыном, як удзелы, ад якіх дамагаўся дані. Беларускія аднак княсьтвы не паддаваліся Уладзімеру і баранілі сваей незалежнасьці. Смаленскае і Турава-Пінскае Ўладзімеру ўрэшце ўдалося зламаць, далучыць да Кіева, як удзелы, і змусіць іх плаціць Кіеву дань. Але гэтага зрабіць не ўдалося Ўладзімеру з княсьтвам Полацкім. Гэтае княсьтва пагеройску бараніла беларускай незалежнасьці, астаючыся бадай заўсёды незалежным ад Кіева. Пры гэтым трэба адцеміць, што Полацкія князі, бароначы незалежнасьці самога Полацкага княсьтва, гэтым самым баранілі так-жа і княсьтвы меншыя, суседнія, асабліва што знаходзіліся на зямлі крывічоў і былі залежныя ад Полацка. Гэтыя самастойніцкія полацкія імкненьні асабліва сільна праявіліся пачынаючы ад XI ст. З гэтага часу Полацкае княсьтва на паўночным захадзе, так як Кіеўскае на паўдзённым захадзе, пастаянна забірае пад

сваю ўладу дробныя беларускія ўдзелы. Словам, Полацкі князь іграе такую роль адносна паўночна-заходніх дробных удзельных князьстваў, якую іграе Кіеўскі адносна кіеўскіх ці паўдзённа-заходніх удзельных князьстваў.

Ужо ў 980 г. у Полацку знаходзіцца самастойны беларускі князь Рогвалад, паходжаньня, здаецца, так-жа варага-рускага. Рогвалад і яго сыны былі забітыя на вайне з тым-жа ўсё кіеўскім князем Уладзімерам. Па Рогваладзе асталася дачка яго Рагнеда, якую Ўладзімер узяў сабе за жонку. А ад гэтай жонкі быў у яго сын Ізяслаў. Гэты Ізяслаў, сын Рагнеды, быў закладчыкам полацкага беларускага князьскага дому, полацкай беларускай князьскай дынастыі. Пасьля Ізяслава, сына Ўладзімера (каля 980), полацкім князем быў яго сын Брачаслаў (1044), пасьля—яго сын, слаўны Усеслаў (1101), унук Ізяслава. Гэты ведамы ў гісторыі Беларусі пад назовам Чарадзея з прычыны сваей адвагі, баявой славы і памыснасьці ў кіраваньні Беларусяй. Ён вёў доўгую і ўпорыстую, крывавую вайну з кіеўскімі князямі Яраславічамі, памысна баронячы незалежнасьці Беларусі. Страшная была між імі бітва над ракой Нямігай, пад Менскам, аб чым успамінаецца так-жа і ў песьні аб Палку Ігаравым. Гэты вялікі беларускі князь княжыў 57 гадоў і ўтрымаў незалежнасьць Беларусі аж да канца свайго жыцьця (1101). Па сьмерці беларускага Чарадзея полацкім князь-

ствам кіравалі яго сыны, а пасьля ўнукі, за якіх ад XIV ст. пачаўся ў гісторыі Беларусі так званы пэрыяд беларуска-літоўскага палітычнага сужыцьця.

(Літаратура: **Е. Карскій** — Бѣлоруссы I, Вильна, 1904; **А. Киркор** — Бѣлорусское Полѣсье (Живописная Россія, т. III), Москва, 1882; **Ст. Томашівський** — Українська Історія, I Старинні і Середні віки, Львів, 1919. **Д. Багалѣй** — Русская Исторія, I Княжеская Русь. Москва, 1914, **А. Sanders** — Um die Gestaltung Europas. München, 1938.)

---

## III

## Хрысьціянства й народы; сьв. Уладзімер і хрышчэньне Русі: Украінцаў, Беларусаў і Маскоўцаў

*Адносіны Хрысьціянства да розных народаў. Славяне і іх пісьменства. Апосталы славян Кірыл і Мяфод: іх праца і значэньне. Сьв. Уладзімер. Хрышчэньне: Украінцаў, Беларусаў і Маскоўцаў. Адкуль Уладзімер прымаў Хрысьціянства і адносіны яго да Апостальскай Сталіцы. Адзінства Хрысьціянства.*

Лёгка дадумацца, што апосталы Хрысьціянства, нясучы ў сьвет Слова сьв. Эвангельля, нясьлі яго прадусім у мове і форме грэцкай і лацінскай, бо гэтыя мовы былі падставай, як ведаем, тагочаснага культурнага жыцьця на сьвеце. Нават Жыды, расьцярушыўшыся па ўсей грэка-рымскай дзяржаве, мову сваю старадаўную пазабываліся цалком і ўжо Біблію мусілі тлумачыць на мову грэцкую і ёй карыстацца ў сынагогах. Але апосталы гэтыя хутка напатыкалі народы, для якіх гэныя мовы былі ўжо

няведамы, або прынамсі мала ведамы і да якіх прамаўляць і якіх вучыць і для якіх арганізаваць хрысьціянскае жыцьцё трэба было ў іх роднай зразумелай мове.

Гэтак і рабілася. Ужо ў II стаг. паяўляюцца пераклады сьвятых кніг на мову сырыйскую, у пал. стаг. IV — пераклады на мову абісынскую і готскую, у стаг. V — на армянскую, у VI — на грузінскую, у VII — на арабскую, а ў стаг. IX мелі ўжо ў сваей мове сьвятыя кнігі і літургію: пэрсы, туркі, хазары і іншыя.

Гэтага-ж самага трэба было і для славян і гэта сапраўды было роблена. Патрэбу гэтую для славян здаволіваюць вялікія сьвятыя апосталы Кірыл і Мяфод.

Паводле візантыйскіх і арабскіх пісьменьнікаў і дасьледчыкаў VIII—IX ст., славяне, яшчэ будучы паганамі, ужо мелі пісьменства. Пісалі яны тады знакамі, якія называліся «рысы» і «нарэзы», якія абазначаліся пры помачы вострай палачкі на дрэве, на дошках, на кусках кары, на каменьнях і служылі толькі для звычайных і неабходных запісаў і для варажбы.

Пазьней паяўляецца ў іх ужо нармальная абэцэда, так зв. «глаголіца», якая паўстала з абэцэды грэцкай пад уплывам гэных-жа славянскіх пісьменных знакаў—рысаў і нарэзаў. Глаголіца ў старадаўнасьці ўва ўсіх усходня-славянскіх народаў, а знача і ў Беларусаў, мела шырокае практычнае застасаваньне. Глаголіцай

беларускія князі пісалі розныя граматы, дагаворы і іншыя дакуманты.

Але абэцэда глаголіца была яшчэ дужа непрактычная, занадта складаная і цяжкая пры ўжываньні. Добра, відаць, гэта зразумелі апосталы славян сьвятыя браты Кірыл і Мяфод, калі яны, праняўшыся думкай несьці навуку Хрыста да славянскіх народаў, сьпярша прыступілі да пераробкі гэнай старой нязручнай абэцэды. І сапраўды, гэтыя апосталы стварылі абэцэду новую, славянскую, якая пасьля была празвана «кірыліцай», бо апрацаваў яе фактычна Кірыл (будучы сьвецкім чалавекам называўся Кастанцін), які быў высока адукаваным і вучоным.

Браты Кірыл і Мяфод былі родам з Македоніі. Бацька іх Леў быў высокім грэцкім урадаўцам і пражываў у Македоніі ў горадзе Солунь (Тэссалёнікі). Македонія была густа заселена славянамі-баўгарамі і мясцовыя грэкі добра былі абзнаёмлены з баўгарскім языком. Добра яго зналі змалку і Кастанцін і Мяфод. Абодва, атрымаўшы добрае выхаваньне і высокую асьвету, да якой, як сказана, асабліва гарнуўся і якой асабліва адзначаўся малодшы Кастанцін, займалі высокія ўрадавыя становішчы. Аднак хутка пакінулі гэта ўсё, паступілі ў манастыр і пасьвяцілі сябе апостальскай хрысьціянскай справе.

У 861 г. у Кастанцінопаль (Царгорад) яві-

лася пасольства з Хазарскай зямлі прыслаць да хазар вучонага багаслова дзеля пашырэньня сярод іх хрысьціянства. Выбар паў на сьвятых братоў. Па дарозе да хазар яны затрымаліся ў Корсуні, дзе праз некаторы час бліжэй пазналі славянскі язык усходніх славян, які дужа быў падобны да баўгарскага. Тут яны найшлі Эвангельле і Псалтыр, напісаныя «па руску», гэта знача языком усходня-славянскім, які дзеля ўспомненых ужо варага-русаў называлі рускім. Напісаны яны былі найхутчэй глаголіцай.

Паяўленьне гэных пераводаў аб'ясьняецца тым, што сярод варагаў былі ўжо хрысьціяне добра знаючыя грэку і лаціну. Вось-жа яны, відаць, і зрабілі гэны пераклад.

Гэныя кнігі мелі вялікае значэньне ў далейшай працы сьвятых братоў. У той час у хрысьціянскай царкве панавала прakананьне, што царкоўнымі (касьцельнымі) языкамі могуць быць толькі тры: стара-жыдоўскі, грэцкі і лацінскі, а фактычна гэтыя два апошнія, як языкі двух галоўных вялікіх культур. У гэтым прakананьні выражалася фактычнае панаваньне гэных двух старых культураў, якія ня лічылі патрэбным рахавацца з языкамі народаў, якія стаялі культурна ніжэй. Вось-жа факт існаваньня Эвангельля і Псалтыра ў мове ўсходніх славян, а такжа факт існаваньня Службы Божай і сьвятога Пісаньня ў мовах многіх іншых усходніх народаў, аб чым мы ўжо ўспомнілі, павінен быў асла-

біць у душы сьвятых апосталаў сілу гэнага пануючага пракананьня.

Навярнуўшы нямала хазараў на хрысьціянства, Кірыл і Мяфод вярнуліся ў Візанцыю. Па дарозе, каля таго-ж Корсуня (Херсон) яны знайшлі мошчы-рэліквіі (астанкі) мучаніка сьв. Клімэнта папы рымскага і прывязьлі іх у Візанцыю. Але чакала іх новая місія, місія сярод заходніх славян у Маравіі, куды яны і адправіліся каля 863 г.

Каб лягчэй было ім там сеяць зерне Праўды Хрыстовай, яны адправіліся туды, апрацаваўшы славянскую абэцэду і пераклаўшы на славянскую мову сьвятое Пісаньне і кнігі літургічныя, кладучы такім чынам моцныя асновы для далейшага пашыраньня хрысьціянства і агулам прасьветы на ўсіх славянскіх землях.

Такая праца гэтых апосталаў была цяжкой і небясьпечнай. Народ, разумеючы ў роднай мове слова Божае, валам ішоў за сваімі Апосталамі. А тымчасам караніліся ўжо там Немцы. Нямецкае духавенства для палітычных мэтаў накідала там славянам чужую нямецкую мову. А цяпер Немцы ўбачыўшы, што праца іх дарэмная, пачалі рознымі спосабамі змагацца з славянскімі апосталамі. Прыйшлося сьвятым братом нямала зазнаць ад нямецкага духавенства і фальшывых даносаў да Папы, і зьдзекаў, а нават і турмы ад нямецкіх уладаў за сваю апостальскую працу.

Урэшце, Папа Мікалай I († 867), каб даведацца, што сапраўды робяць гэтыя апосталы, выклікаў іх у Рым. Гісторыкі пішуць, што сьвятыя браты прыбылі туды на пачатку 868 г., калі Папам быў ужо Адрыян II. Цяжкія тут былі дні для апосталаў. Мелі яны і тут многа ворагаў. Аднак праўда зваявала. Папа аднёсься да іх дужа добра, справу разгледзіў і прызнаў слушнасьць за славянскімі апосталамі. Галава хрысьціянства мове славянскай прызнаў права ў сьвятынях хрысьціянскіх. Гэта быў выпадак, маючы вялікае гістарычнае значэньне як для жыцьця рэлігійнага, так і агулам для ўсей славянскай культуры.

Праца сьв. Кірыла і Мяфода была для ўсяго славянства сапраўды вялікай. Яна славянскі язык паставіла на роўні з гэбрайскім, грэцкім і лацінскім, у якіх толькі тады і можна было маліцца. Да гэтых такім чынам языкоў прыбыў і язык славянскі. Вось што аб гэтым казаў Папа Адрыян II, пацьвярджаючы працу славянскіх апосталаў: «Выдуманае Кастанцінам-філёзафам славянскае пісьмо, на якім належным спосабам узносіцца хвала Богу, мы пацьвярджаем і загадваем, каб у гэтай мове выкладалася верным навука і дзеі Госпада нашага Ісуса Хрыста, бо Божая ўлада вуча нас хваліць яго ня ў трох толькі языках, гэтак кажучы: «Хваліце Госпада ўсе народы, хваліце яго ўсе людзі». І апосталы, напоўненыя сьв. Духам, прапаведвалі веліч Го-

спада ўва ўсіх языках. І апостал Павал—гэтая труба Госпадава — нам пaказвае, што кожны язык няхай славіць Госпада нашага Ісуса Хрыста на славу Айца. І ў першым пасланьні да Карынчыкаў ён даволі нас павучае, каб мы, гаворачы рознымі языкамі, тварылі Хрыстовую Цэркву. І сусім непраціўна, ні веры ні навуцы Хрыста, калі будзе ў гэтым-жа славянскім языку чытацца і аб'ясьняцца сьвятое Пісаньне Старога і Новага Завету, належна пераложанае і вытлумачанае, адпраўляцца літургія ці іншае набажэнства, бо хто стварыў тры першыя языкі: юдэйскі, грэцкі і лацінскі, той стварыў і ўсе іншыя для большай славы сваей».

Цяпер ясна, што сьвятло Хрыстовай навукі дасталося да беларускіх плямёнаў праз Грэкаў з Візанцыі, а прадусім праз паўдзённых славян, у IX—X ст. дзякуючы працы славянскіх апосталаў сьвятых Кірыла і Мяфода. Яны, выдумаўшы, ці толькі папраівіўшы ўжо існуючы альфабэт для славянскага пісьменства, пералажыўшы сьв. Пісаньне і літургічныя кнігі на славянскую мову, гэтым палажылі моцныя асновы для пашырэньня Хрысьціянства і агулам прасьветы па ўсіх славянскіх землях.

Мова, у якой сьв. апосталы тлумачылі сьвятыя кнігі, завецца царкоўна-славянскай. Гэта дзеля таго, што яна з часам сталася мовай памёршай і агранічылася толькі да ўжываньня ў літургіі, якая і сяньня ўжываецца ў рэлігій-

ным жыцьці Беларусаў праваслаўных і уніятаў. Але ў навуцы гэтую мову прынята называць стара-баўгарскай. Гэта затым, што мова, якой сьвятыя славянскія апосталы карысталіся, найбольш была зблiжана да мовы тагочаснай баўгарскай.

Мова гэта ў той час мала розьнілася ад моваў, якімі гаварылі ўсе іншыя славяне і агулам была для іх зразумелай. Праз кірыла-мяфодаўскую працу сталася яна мовай літаратурнай для ўсіх славян. Пры помачы гэтай мовы Хрысьціянства ў IX—X ст. дасталося да ўсіх славянскіх народаў: да Мараваў, да Баўгараў, Сэрбаў, Харватаў, Чэхаў, Украінцаў, Беларусаў, Расейцаў, а магчыма, што да Палякоў і Славэнцаў.

Але Хрысьціянства на Беларусь сьпярша дасталося толькі да адзінак, а да масаў, да народу яно дайшло за часаў сьв. Уладзімера, вялікага Кіеўскага князя.

За часаў Уладзімера, вялікага князя Кіеўскага, і яго стараньнем пашырылася масава Хрысьціянства, як сярод народу Украінскага, Расейскага, так і Беларускага. Вось-жа належыцца нам хоць збольшага пазнаёміцца з гэтым слаўным князем, дзякуючы якому сьвет Праўды Хрыстовай дайшоў і да нас, і які, як у праваслаўных, так і ў каталікоў, уважаецца за сьвятога і называецца роўнаапостальскім.

Як аб хросьце, так і аб самым Уладзімеру, даведваемся з розных старых дакумантаў

і ад пісьменьнікаў, па якіх асталіся аб гэтым усім для нас весткі. Маем апавяданьне манаха Якуба ці Нэстара, пахвальнае слова ў чэсьць Уладзімера, напісанае кіеўскім сьвяшчэньнікам, пазьней мітрапалітам Украіны, Беларусі і Масквы Іларыёнам, маем так-жа апавяданьне сьв. Брунона, што гасьціў у сьв. Уладзімера і прапаведваў Хрысьціянства ў лацінскім абрадзе сярод дзікіх сьцяпавікоў на паўдні Украіны—печанегаў. Маем так-жа весткі Тітмара, біскупа места Мэрсэбурга ў Нямеччыне, апавяданьні грэцкіх пісьменьнікаў і інш. Урэшце дайшлі да нашых часаў запіскі, зробленыя ў Кіеве за часаў Уладзімера. Яны захаваліся ў розных старых летапісных зборніках, як напр. адзін з іх, які называецца «Ніканаўскі Летапіс».

З гэных вестак даведваемся, што інакш тады выглядала і жыцьцё на нашых землях і самыя гэтыя землі. Непрайдзімыя лясы былі ўсюды. Адчасьці дарогі сухапутныя, а прадусім рэчныя былі галоўнымі шляхамі зносінаў нашых продкаў з людзьмі і са сьветам. Па Дняпры, Зах. Дзьвіне, Нёмане і Вяльлі вялі яны гандаль і мелі зносіны з усім цывілізаваным сьветам, як на ўсходзе (Візантыя), так і на захадзе (заходняя Эўропа). Праз наш край па гэтых рэках вёў вялікі шлях «із Варяг в Грекі», як яго тады называлі. Але зносіны гэтыя былі трудныя, небясьпечныя і даступныя не для многіх. Ня спрыяла такім чынам гэта ўсё і пашыраньню ў нас Хрысь-

ціянства. Аднак яно хоць паволі, але ўжо задоўга да сьв. Уладзімера пашыралася, дастаючыся сьпярша, насколькі яно йшло з усходу і паўдня, — да Украінцаў, а адтуль і да Беларусаў. Аднак гэта Хрысьціянства вызнавалі яшчэ толькі князі, дружына князя, купцы і іншыя, што мелі стычнасьць з хрысьціянскім сьветам. Так напрыклад па сьмерці Кіеўскага князя Ігара, яго жонка ўдава сьв. Ольга († 969) сталася хрысьціянкай, якая прабавала ахрысьціць такжа і ўвесь народ, але гэта ей не ўдалося. Хрысьціянства было тады адно, ня было ў ім падзелу, хоць ужо існавалі розныя абрады. І так сьв. Ольга сама была хрысьціянкай усходняга абраду, а народ свой была гатова хрысьціць паводле абраду лацінскага. З гэтай мэтай яна паразумелася з нямецкім царом Оттонам. Гэты выслаў у Кіеў сьв. Адальбэрта, місіянара, немца, лацінскага абраду. Але тады княжыў у Кіеве яе сын Сьвятаслаў, дужа варожы да Хрысьціянства і дзеля гэтага місія сьв. Адальбэрта не ўдалася.

Урэшце вялікая справа хрышчэньня ўсяго народу, як сказана, Украінскага, Беларускага і Расейскага (Маскоўскага) наступіла за часаў Уладзімера сьв. Вялікі гэты князь добра зразумеў, што аставацца самому паганцам і такімжа пакідаць народ, — гэта значыла быць у поўным разьяднаньні з культурным хрысьціянскім (усходнім і заходнім) сьветам. І ён, зважыўшы

гэта добра, рашыўся на вялікі гістарычны шаг, — на прыняцьце Хрысьціянства.

За часаў Уладзімера, як мы ўспомнілі, асабліва ў Кіеве, ужо было нямала хрысьціян сярод вышэйшага асьвечанага слою грамадзянства. Многія мелі з іх нагоду пазнаць і прыняць Хрысьціянства ці ў Царгорадзе (Візанцыя) у усходнім, грэцкім абрадзе, ці ў Швэцыі (адкуль пераважна паходзілі першыя князі: варага-русы), дзе шырылася тады Хрысьціянства ў лацінскім абрадзе, а так-жа многія, асабліва купцы, прымалі Хрысьціянства лацінскае ў Зах. Эўропе. А гэтыя хрысьціяне не аставаліся без свайго духавенства, — яны мелі пры сабе і сваіх сьвяшчэньнікаў, як грэцкага, так і лацінскага абраду, а так-жа абраду славянскага, з Баўгарыі—пасьля таго, як там завялі Хрысьціянства сьв. сьв. Кірыл і Мяфод. І сам Уладзімер меў за жонку баўгарыню і чэшку, так-жа хрысьціянкі, з якімі былі іх духоўнікі. Ад жонкі баўгарыні былі ў іх сыны: Барыс і Глеб, сьвятыя мучанікі за хрысьціянскую веру. Такім чынам Уладзімеру аставалася толькі бліжэй зацікавіцца гэтай справай і рашыцца на прыняцьце Хрысьціянства. І гэта сталася: сьпярша ў Кіеве каля 987 г. ахрысьціўся ён сам, а пасьля прыступіў да хрышчэньня ўсяго народу.

Паўстала толькі пытаньне, ад каго і ў якім абрадзе прыняць і пашыраць Хрысьціянства?

Найдагаднейшымі і найбліжэйшымі для гэтага былі два краі: Корсунь (цяперашні Крым) і Баўгарыя. І ў Корсуні і ў Баўгарыі было ўжо такое духавенства, што магло лёгка паразумевацца са славянамі. Тагочасная баўгарская мова была зразумелай яшчэ для ўсіх славян. Баўгары мелі ўжо тады сваю самастойную царкву, якая была ў еднасьці з Рымам (сталіцай яе была Охрыда ў зах. Баўгарыі, сяньняшняй Македоніі), дзе быў асобны баўгарскі патрыях. Царква гэтая мела ўжо гатовы славянскі абрад са славянскім языком у Службе Божай, патрэбныя кніжкі, а так-жа і сваё духавенства.

У Крыме (Корсуні) так-жа было нямала духавенства, што разумела паславянску, ня гледзячы на тое, ці гэта былі Грэкі ці Славяне. Адгэтуль так-жа можна было ўзяць сьвяшчэньнікаў, але не епіскапаў, бо корсунская царква герархічна падлягала Царграду.

Пра Царгорад аднак ня прыходзілася і думаць, бо ад сьмерці Сьвятаслава, бацькі Уладзімеравага, між Кіевам і Візантыяй адносіны былі напружаны, затым, што Грэкі былі наслаўшы печанегаў і тыя замардавалі Сьвятаслава. Далей, візантыйская (царгародзкая) царква бадай сусім не займалася місіямі сярод паганаў, яна ня мела для гэтага адпаведна прыгатаванага духавенства, ані царкоўных кніг. Ды браць адтуль духавенства: сьвяшчэньнікаў і епіскапаў,

— гэта значыла-б аддаць у рукі сваіх ворагаў найвызначнейшыя мясцы ў дзяржаве. Рабіць так ня было ніякага сэнсу.

Вось-жа з гэтых усіх краёў Уладзімер выбраў прадусім Корсунь. На гэта злажыліся наступныя прычыны. У Візантыі выбухнуў бунт. Цэсары (было іх тады там двух) зьвярнуліся па помач да свайго непрыяцеля Уладзімера. Гэты згадзіўся, але з умовай, што цэсары гэныя выдадуць за яго замуж сваю сястру Ганну. Іншага выхаду ня было і яны згадзіліся. Уладзімер памог: бунт быў здушаны. Уладзімер дамагаўся спаўненьня ўмовы. Цэсары аднак пачалі круціць. Уладзімер, каб змусіць іх, пайшоў вайной на Корсунь. Корсунь падлягаў Візантыі, але толькі з мусу, заўсёды корсуняне былі гатовы гэнай няпрошанай апекі пазбыцца. Цяпер надаралася ім добрая нагода. Нават і сярод корсунян знайшліся, што памагалі Уладзімеру здабыць Корсунь. Сярод такіх было нямала і духавенства. Такім чынам Уладзімер здабыў Корсунь і адтуль меў духавенства, патрэбнае для ахрышчэньня свайго Краю. Корсунь для Візантыі быў дужа важным гандлёвым і стратэгічным пунктам. Цэсары зьмяклі і Ганну аддалі Уладзімеру за жонку. Шлюб адбыўся ў Корсуні. Пасьля гэтага Уладзімер вярнуўся ў Кіеў, вязучы з сабой духавенства, што яму спрыяла, а так-жа і тое духавенства, якое было ў пашане ў Ганны. Гэтае духавенства ахрысьціла яго

і правяло хрышчэньне Украіны, пасьля Беларусі і Расеі.

Але самым толькі хрышчэньнем справа яшчэ ня была скончана. Трэба было падумаць аб мітрапаліце і епіскапах, якія арганізавалі-б царкву і ёю ўпраўлялі-б. Яшчэ падчас прабываньня Уладзімера ў Корсуні, прыбылі туды паслы ад папы [з Рыму. Гэтыя паслы прывязьлі яму мошчы (рэліквіі), галаву сьв. Клімэнта, папы Рымскага, які памёр у Крыме на выгнаньні ў канцы першага стагодзьдзя па Хрысьце. Гэткім чынам між Уладзімерам Вялікім і папам Рымскім навязаліся зносіны, якія не перарываліся і далей. Пасольствы йшлі з Кіева ў Рым і з Рыму ў Кіеў. Ясная рэч, што гэтыя пасольствы датычылі найважнейшых дзяржаўных спраў, а ў іх ліку і справы епіскапату для новаахрышчаных краёў. Уладзімер такім чынам, як бачым, быў у еднасьці з Апостальскай Сталіцай, дык з яе ведама і згоды ўзяў сабе і епіскапаў. З Корсуня ўзяў сьвяшчэньнікаў, а епіскапаў з Баўгарыі.

З Баўгарыі ў Кіеў прыбыў першы мітрапаліт Міхал з некалькімі епіскапамі. Яны прынясьлі з сабой багаслужэбныя кнігі, а так-жа зборнік царкоўнага права, крыху адменнага ад права, якое абавязвала ў візантыйскай царкве. Славянская мова прапаведнікаў значна памагала ў пашыраньні Хрысьціянства ў дзяржаве Уладзімера, а так-жа і ў дзяржавах суседніх

славян. З Кіева Хрысьціянства пашыралася і на Беларусь. І сюды прыйшло яно ў форме баўгарскай. І сюды нясьлі яго місіянары (Грэкі і Баўгары) у старабаўгарскай мове. У гэтай-жа мове былі кнігі і багаслужэньне.

Уладзімер сьв. падумаў так-жа і аб будучыні Хрысьціянства. Для яго было ясным, што пасьля сьмерці першых сьвяшчэньнікаў-місіянараў: Баўгараў і Грэкаў, трэба ўжо мець сваіх уласных. Для гэтай мэты ён закладаў школы і загадаваў браць дзяцей у знатнейшых бацькоў і аддаваць іх у гэныя школы на навукі. І сапраўды, праца Уладзімера ў гэтым кірунку не пайшла намарна. Ужо на пачатку панаваньня Яраслава Мудрага бачым у Кіеве Украінца мітрапаліта Івана, а пасьля яго наступіў Іларыён, так-жа Украінец.

З Кіева, з Украіны, Хрысьціянства дасталося на Беларусь. Нясьлі яго сюды баўгарскія, грэцкія і ўкраінскія сьвяшчэньнікі, прамаўляючы да Беларусаў у зразумелай тады яшчэ для ўсіх баўгарскай (з дамешкай часта украінскай) мове. У гэтай-жа мове і да нас прыйшлі также царкоўныя кнігі і багаслужэньне. Уладзімер сьв. быў у ґеднасьці з Апостальскай Сталіцай. І наша беларускае Хрысьціянства ў гэтым часе так-жа было яшчэ адзіным і непадзельным.

(Літаратура: Ks. Ad. Stankievič — Rodnaja mova ŭ śviatyniach, Vilnia, 1929; **Власов фон**

Вальденберг — Історія Россіи (862 — 1920), Харбин 1936; Т. Коструба — Великий Будовничий Українськоі Держави, Станіславів, 1937; Т. Коструба — Католицька Правовірність Володимира Вел. («Нова Зоря» 21.VIII.38.)

---

IV

## Хрышчэньне Беларусі

*Уладзімер Вялікі, Ізяслаў Полацкі і Хрышчэньне Беларусі. Першае епіскапства ў Полацку. Сьвятая беларуская князёўна Афрасіньня Полацкая. Роль баўгарскай мовы ў хрыстыянізацыі і культуры Беларусі.*

Сьвятло Хрыстовай навукі даставалася да Беларусі яшчэ задоўга да Ўладзімера Вялікага. Існуе нават легенда, што першы прынёс яго сюды сам апостал Андрэй. Даставалася яно ў Беларусь прадусім у землі Крывічоў, праз якія праходзіла дарога з Нармандыі ў Візанцыю: «із Варяг в Грекі». Зямля Крывічоў, пасьля Полацкае князьства, займала шырокія прасторы. Яна цягнулася з паўдня на поўнач ад Прыпяці да Балтыцкага мора, а з усходу на захад ад Дняпра да Нарвы і да ўтокаў Нёмна. Полацак — гэта найстарэйшы беларускі горад, аб ім у скандынаўскіх сагах задоўга да Рурыка ўжо ўспамінаецца, як аб багатым і сільным горадзе. У Полацку, так як і ў Кіеве, яшчэ да Ўладзімера сьв. было нямала хрысьціян. Але Хрысьціянства

масава ў беларускім краю пашыралася за часаў Уладзімера. Гэты вялікі князь пасьля свайго хрышчэньня горача ўзяўся за хрышчэньне ня толькі зямель украінскіх, але так-жа і беларускіх.

Уладзімер сьв. старанна пашыраў Хрысьціянства, бо зразумеў яго веліч унутраную, а так-жа, як выбітны валадар, разумеў і тыя вялікія, як палітычныя, так і агульна цывілізацыйныя вартасьці Хрысьціянства. Ён добра разумеў, што праз Хрысьціянства яго ўласны і яго-ных суседзяў народы ўваходзяць у сям'ю цывілізаваных хрысьціянскіх народаў і што аставацца далей у паганстве — гэта быў-бы вялікі анахронізм і вялікая для гэтых народаў шкода. Добра гэта-ж разумелі і беларускія князі, валадары беларускіх самадзельных князьстваў: полацкага, смаленскага і турава-пінскага. Дзеля гэтых прычын і яны ахвотна ставаліся хрысьціянамі і жарліва пашыралі Хрысьціянства сярод беларускіх плямёнаў у сваіх князьствах.

У Полацку быў тады Ізяслаў, сын Уладзімера і полацкай князёўны, дачкі Рогвалада, Рагнеды. Вось-жа за часаў гэтага беларускага князя і прыняла хрост уся беларуская зямля. Даканалі гэтага сьвяшчэньнікі, якіх прысылаў сьв. Уладзімер. Сьведча аб гэтым бадай сучасны Ўладзімеру мітрапаліт кіеўскі Іларыён, а так-жа крыху пазьнейшы мніх Якуб, які ў сваей пах-

вале Ўладзімеру няраз кажа, што ён «хрысьціў усю рускую зямлю ад канца да канца... усю зямлю рускую і ўсе гарады ўбраў сьвятымі цэрквамі»... Рускай-жа зямлёй, як ведаем, называлі ўсе тыя ўсходня-славянскія землі, дзе былі князі з племя вараскага Русь. А з гэтага-ж племя былі і князі беларускія полацкія, за часаў якіх хрысьцілася Беларусь. З летапісу відаць, што Ўладзімер ня толькі пасылаў усюды епіскапаў і сьвяшчэньнікаў, каб хрысьціць народ, але і сам асабіста часта езьдзіў з епіскапамі дзеля падтрыманьня Эвангельскай праўды. Пасьля ахрышчэньня ўсіх рускіх зямель, як кажа летапісец, Уладзімер яшчэ жыў 25 гадоў. А знача — меў яшчэ дастатачна часу, каб усе гэтыя землі сапраўды прывесьці да Хрыста. Такім чынам няма сумніву, што яшчэ пры Ўладзімеру ў Полацку ўцьвярдзілася Хрысьціянства, а беларускі князь Ізяслаў, якога летапісцы хваляць за «благочестіе», быў галоўным дзеячом у гэтай сьвятой справе. У гэтым-жа часе ўцьвярдзілася Хрысьціянства і па ўсей беларускай зямлі.

Але калі-ж тут паўстала епіскапства? Летапіс першага з полацкіх епіскапаў успамінае Міна, пасьвячанага ў 1105 г. Але маўчаньне летапісаў аб полацкіх ранейшых епіскапах, быўшых прад Мінай, не даказвае, што іх ня было. Паводле «Книги Степенной», мітрапаліт Леонці ўстанавіў 6 епархіяў, у ліку якіх, праўда, по-

лацкая не ўспамінаецца, але беспасрэдна дадаецца, што Леонці «і во іные многіе грады разосла епіскопы». Але ў якія гарады? Аўтар «Книги Степенной» часткова разьясьняе гэтае пытаньне. Ён кажа, што разьдзяленьне «рускай» царквы на епархіі адбывалася адначасна з разьдзяленьнем «рускага гасударства» паміж сынамі сьв. Уладзімера. Далей, мітрапаліт Іларыён, у пахвальным слове Уладзімеру кажа, што ён у дзесяці важнейшых гарадох стварыў епіскапствы. У апісаньні жыцьця сьв. Леонція, епіскапа ростаўскага, сказана, што сьв. Уладзімер паслаў епіскапаў між іншым і ў Полтеск, гэта знача ў Полацак. Узноў-жа ў «Кнізе Степенной», у апісаньні жыцьця сьв. Афрасіньні, гаворыцца, што за часаў полацкага Князя Барыса, роднага дзядзькі Афрасіньні, каторы памёр у 1128г., полацкі епіскап Ілья ўступіў ей для манастыра аселішча Сяльцо, блізка Полацка, што належыла да епіскапа, і ўступаючы яго сказаў, што ў гэным Сяльцы: «братія наша лежат, прежде нас бывшии епископы». Адгэтуль можна зрабіць вывад, што ў епіскапа Ільі быў не адзін папярэднік Міна, але было іх аж некалькі. Полацак і Тураў — кажа праф. Галубінскі—належаць да тых гарадоў, у якіх дужа праўдападобна, што заснаваньне там епархіяў адбылося за часаў Уладзімера сьв. Гэты-ж Галубінскі заснаваньне полацкай епархіі адносіць да 992 г. Польскі гісторык Несецкі цьвердзіць, што гэ-

тая епархія была заснавала каля 1000 году. То-е-ж самае кажа і другі польскі гісторык Стэбэльскі.

Словам, Хрысьціянства, паявіўшыся масава ў Полацку, як у галоўным горадзе беларускай зямлі, хутка пашырылася і на ўсе беларускія землі. Паявілася яно хутка ў Смаленску, так-жа зямлі крывічанскай, у Тураве, зямлі Дрыгавічоў, і ў інш., дзе закладаліся епіскапскія катэдры.

У ст. XI—XII уся беларуская зямля была пакрыта хрысьціянскімі сьвятынямі, а так-жа і манастырамі, з якіх выходзілі сьвятыя людзі, што Беларусі пасьвячалі сябе цалком і праславіліся на ўсе вякі. З гэткіх былі прадусім: Кірыл Тураўскі, Параска, беларуская сьвятая князёўна Афрасіньня Полацкая.

Сьв. Афрасіньня, будучы сьвецкай, называлася Прадславай. Была яна праўнучкай Уладзімера сьв., унучкай полацкага князя Усеслава Брачыславіча († 1101) і дачкой малодшага з сыноў гэтага апошняга, Юрага-Сьвятаслава. Яшчэ будучы малой, яна выказвала вялікі нахіл да глыбейшага хрысьціянскага жыцьця, да сьвятасьці, да навукі. Але бацькі яе аднак ужо мяркавалі аб яе замужастве. І вось калі яна аб гэтым даведалася, тайком пакінула бацькаўскі дом і пайшла ў манастыр, дзе прабывала законніцай яе родная цётка, жонка князя Рамана Усеславіча, і тут сталася манахіняй пад імем Афрасіньні.

Прабыўшы некаторы час у гэным манастыры, яна выпрасіла ў полацкага епіскапа Ільлі, каб ён пазволіў ей жыць аднэй у цэлі, прыбудаванай пры катэдральным саборы. Замкнуўшыся ў гэтай цэлі, сьвятая наша вяла дужа суровы спосаб жыцьця, доўгія гадзіны прабываючы на малітве, а так-жа посьцячы і пасьвячаючыся розным добрым учынкам. У вольныя часіны перапісвала сьвятыя кнігі, вышывала аблачэньні, пасылаючы гэта ўсё бяднейшым беларускім цэрквам і манастырам. А калі за гэтую сваю працу выручала якія грошы, дык аддавала іх убогім. Пашырала так-жа сярод Беларусаў грамату, вучачы чытаць і пісаць беларускіх дзетак. Але гэта ўсё адцягвала яе ад яшчэ больш дакладнейшай службы Богу і яна шукала больш адпаведных абставінаў для сваіх намераў. І вось, атрымаўшы дазвол ад полацкага епіскапа, перасяляецца ў Сяльцо пад Полацкам, дзе была цэркаўка ў чэсьць Спаса. Гэна ўсё Сяльцо, якое было ўласнасьцяй катэдральнай царквы, епіскап падарыў Афрасіньні, каб яна там залажыла жаночы манастыр. Гэта было ў прысутнасьці бацькі яе Юрага і яе дзядзькі, тагочаснага полацга князя, Барыса. Гэты манастыр нашая сьвятая сапраўды залажыла і назвала яго Спасаўскім. Манастыр разьвіваўся памысна і павялічваўся. У гэтым манастыры хутка апынуліся сваячніцы сьв. Афрасіньні: родная яе сястра Гордзіслава (у манашастве Аўдоцьця), стрыечная

сястра Зьвеніслава (у манашастве Праксэда), і яшчэ дзьве далейшыя сваячніцы з дазволу полацкага епіскапа Дзяніса († 1183), з якіх у манашастве адна называлася Агатай, а другая Аўхімяй. Хутка нашая сьвятая збудавала тут на месцы старой дзеравяннай царквы мураваную ў чэсьць Спаса, якая захавалася аж да часаў бальшавіцкіх, а ці цяпер існуе — няма ведама. Паставіўшы на ногі свой жаночы манастыр, сьв. Афрасіньня недалёка збудавала другі, мужчынскі, так-жа з мураванай цэрквай у чэсьць Маці Божай.

Урэшце, калі абодва манастыры разьвіваліся памысна і нічога ім не бракавала, нашая сьвятая, пакінуўшы ім падрабязны закон, паводле якога мелі жыць манахі, сама, з сваякамі сваімі Давідам і Параскай, пайшла адведаць Ерузалім, гроб Спаса. Пабыўшы тут праз некаторы час, сьв. Афрасіньня занемагла і, прахварэўшы 24 дні, там-жа і памёрла 23.V.1173 г., дзе і была пахаваная. Цела яе там аднак асталася нядоўга. У хуткім часе Туркі заўладалі сьвятой зямлёй, дазваляючы аднак хрысьціянам свабодна адтуль выяжджаць і забіраць свае сьвятасьці. Вось-жа і цела нашай сьвятой было з Ерузаліму перавезена ў Кіеўскую пячурскую лаўру, дзе яно нятленным праляжала аж да 1910 г. пад апекай Праваслаўнай Царквы. У 1910 г. яно было перавезена ў родны Полацак. Цела нашай сьвятой вязло праваслаўнае

духавенства з Кіева да Оршы (695 вёрст) па Дняпры на параходзе, ад Оршы да Віцебска (65 вёрст) шашой, і ад Віцебска да Полацка (125 вёрст) звычайнай дарогай. Падчас падарожы на параходзе адпраўлялася набажэнства, а так-жа і на прыстанях, дзе спатыкалі сваю сьвятую масы Беларусаў. Падарож па дарозе адбывалася ў урачыстай працэсіі пры вялікім учасьці беларускіх народных масаў.

Такім чынам сьв. Афрасіньня, аднолькава ўважаная сьвятой як у праваслаўнай, так і ў каталіцкай царкве, вялікая сьвятая, апосталка і прасьвяціцелька Беларусі, вярнулася ў родны беларускі Полацак. Дзе сяньня гэта такая дарагая беларуская сьвятасьць і які яе лёс? Хто-ж гэта згадае!..

І так Беларусь у X—XI ст. сталася хрысьціянскай. Прыйшло яно да нашага народу і з Візанцыі і з Баўгарыі ў стара-славянскай ці вярней — баўгарскай мове. Украінскі гісторык Томашівсьскій, ацэньваючы, ведама, дадатна, сам факт Хрысьціянства ў нас і яго вялікае для нас значэньне, у некаторых абставінах яго ў нас паяўленьня бачыць і ад'ёмныя староны. Вось яны: Хрысьціянства, прыйшоўшы да нас з Усходу, утрудніла Беларусам і Украінцам нашыя зьвязкі з заходнімі дзяржавамі, і што гэтая палітычная ізаляцыя наша ад Захаду была шкоднай для нашага палітычнага разьвіцьця. Бачыць гэны гісторык ад'ёмныя староны і куль-

турныя ў гэных абставінах хрышчэньня нашага народу: край наш, праўда, зьвязаўшыся з Візанцыяй, меў доступ да вялікай візантыйскай культуры, але гэна культура ўжо тады была асуджана на павольны заняпад. Далей, гэтая культура даходзіла да нашага народу ня ў роднай, арыгінальнай форме, а ў дрэннай копіі — у стара-баўгарскай. Гэта накінула нам стара-баўгарскі літаратурны язык, які затрымаў на доўгія стагодзьдзі развой народнай беларускай мовы і гэтым меў адʼёмны ўплыў на культурнае наша жыцьцё, спыняючы яго. Урэшце, хрысьціянізацыя Русі наступіла ў часе бадай поўнага адзінаўладзтва Уладзімера блізу над усімі ўсходня-славянскімі плямёнамі. Вось-жа адна суцэльная руская царква, разам з стара-баўгарскай мовай, стала цяпер сільным лучвом, што злучала ўсе плямёны сільней бадай, як сама дзяржаўная супольнасьць, якая дужа хутка пасьля Ўладзімера перастала быць якой-небудзь творчай сілай. За гэта ўсё ў далейшай гісторыі украінскі і беларускі народ заплацілі поўнай утратай палітычнай і нацыянальнай самастойнасьці.

Ведама, у гэтых думках украінскага гісторыка шмат ёсьць праўды. Але гэтую праўду мы бачым цяпер, калі нас дзеліць ад тых часаў аж 950 гадоў. Тады-ж ніякі чалавечы геній гэтага прадбачыць ня мог, як ня мог паступаць насупроць геапалітычным і гістарычным умо-

вам тагочаснага жыцьця. Гэныя недахопы, якія ў сутнасьці з Хрысьціянствам ня зьвязаны, трэба нам папраўляць сяньня.

(Літаратура: А. Сапунов — Историческія судьбы Полоцкой Епархіи с древнейших времен до половины XIX в. Витебск 1889; П. Никитин — Исторія города Смоленска, Москва 1848; Евфросиніевскія торжества (Виленскій Календарь на 1911 г.); Ст. Томашівсьский — Українська Історія I; И. Беляев — Исторія Полотска или Северо-Западной Руси от древнейших времен до Люблинской Уніи. Москва 1872; Преподобная Евфросинія, княжна полоцкая. Вильна 1910; Е. Голубинскій — Исторія Русской Церкви, т. I. Москва 1880.)

---

## V

## Розныя абрады — адно Хрысьціянства

*Адзінства Хрысьціянства ў розных абрадах. Чаму Русь прымае Хрысьціянства ў абрадзе грэка-славянскім. Усход і Апостальская Сталіца. Падзел Хрысьціянства. Падзел і Беларусь. Беларусь і Апостальская Сталіца.*

Не адрэчы будзе тут запытацца, у якім абрадзе, у якой форме, у якой мове пашыралася тады на беларускіх землях Хрысьціянства, калі ведаем, што існавалі галоўныя культурныя мовы і літургічныя абрады ў мове лацінскай, грэцкай, славянскай і калі так-жа паўставалі літургічныя абрады і яшчэ ў іншых мовах. Адказ ясны. Сярод беларускага народу, як і сярод іншых усходніх славян (Расейцаў і Украінцаў) Хрысьціянства пашыралася ў мове славянскай, у якой пісаліся кніжкі, вялася прасьвета і адпраўлялася набажэнства.

Калі-ж з бегам часу для славянскіх народаў стара-славянская мова рабілася мала зразумелай і калі ў іх выраблялася мова жывая, кожнаму народу ўласная, тады гэна агульна-

славянская мова асталася толькі ў багаслужэньні. Літургія, Служба Божая ў славянскай мове завецца славянскім абрадам, або грэкаславянскім, дзеля таго, што Кірыл і Мяфод, укладаючы яго, за ўзор сабе мелі абрад грэцкі, ад якога ён мала і розьніцца.

Спатыкаем так-жа ў гэтым часе на беларускіх землях і абрад лацінскі, але дужа рэдка — толькі ў большых гандлёвых гарадох і для нямногіх прыезных людзей.

Прыгледзімся-ж цяпер да тых узаемных адносінаў, якія існавалі паміж рознымі хрысьціянскімі абрадамі, а так-жа да адносінаў іх да Апостальскай Сталіцы. Прадусім мусім сьцьвердзіць, што хоць Хрысьціянства да нас прыйшло і ў грэка-славянскім абрадзе і прыйшло яно з Візантыі і з Баўгарыі, то з гэтага зусім ня вынікае, што абрад лацінскі нашы продкі ўважалі за нейкі горшы або менш хрысьціянскі і што гэткі пагляд іх мяшаў ім прыняць Хрысьціянства з Рыму ў абрадзе лацінскім. Не. Гэткіх паглядаў тады ня існавала сусім. Было-ж так затым, што ня было тады ў Хрысьціянстве ніякага догматычнага падзелу, што яно тады ў сьведамасьці ўсіх хрысьціян было адным, нepадзеленым, апостальскім, сусьветным. Усходнія-ж славяне, а ў іх ліку і Беларусы, прынялі яго ў абрадзе славянскім, бо гэтаму спрыялі геа-палітычныя і культурныя абставіны гэтых

народаў. Былі нават мамэнты ў гісторыі нашых продкаў, калі яны нават баяліся лішняга зблі-жэньня і залежнасьці ад Візантыі і дзеля гэтага нават кланіліся да Хрысьціянства заходняга, лацінскага. Так напрыклад, як мы ўжо ўспаміналі, Ольга, прыняўшы Хрысьціянства, найхутчэй у абрадзе грэка-славянскім, рабіла захады ахрысьціць свой народ у абрадзе лацінскім. Яна гэта рабіла больш з матываў палітычных, яна тады была ў няўзгодзе з Візантыяй і хацела ад яе быць далей. Але хутка абставіны зьмяніліся і лацінскі місіянар, высланы ў наш край нямецкім імпэратарам Оттонам Вялікім, вярнуўся з Кіева з нічым. Дружныя адносіны Уладзімера сьв. з каралямі польскім, чэскім і вугорскім адкрывалі дарогу і лацінскім місіянарам. У тым годзе, калі адбывалася хрышчэньне сьв. Уладзімера, Папа рымскі пасылае яму ў Корсунь мошчы сьвятых. Брунон Баніфац па дарозе да Печанегаў быў гасьцінна прыманы ў Кіеве (1007).

Вось-жа трэба тут сьцьвердзіць, што ўсе тагачасныя (ад пачатку існаваньня да палавіны XI в.) хрысьціяне, як грэкі, лаціньнікі, так і ўсе народы славянскія, а ў іх ліку і народ беларускі ў першым гэтым пэрыядзе сваей гісторыі, станавілі адну Цэркву-Касьцёл, якая, як гэтага вымагае воля Хрыста, выражаная ў сьв. Пісаньні Новага Завету, была пад найвышэйшай уладай наступнікаў сьв. Пятра—рымскіх епіскапаў, — пад уладай Апостальскай Рымскай Сталіцы.

Самі Рымскія епіскапы-папы заўсёды былі сьведамы гэтай улады і заўсёды яе выконвалі.

Аб гэткай уладзе папскай сьведчаць такжа многія Айцы Цэрквы-Касьцёла, як грэцкія, так і лацінскія.

Аб найвышэйшай уладзе папскай ня менш так-жа вымоўна гавора і тое, што сусьветныя царкоўныя саборы заўсёды адбываліся з багаславенства Рымскага Папы, а пастановы гэтых сабораў заўсёды патрабавалі папскага зацьверджаньня. На саборах гэтых заўсёды старшынствавалі так-жа пераважна папскія делегаты.

Ня менш урэшце выразна сьведчаць аб папскім старшынстве ў Хрыстовай Цэркві і некаторыя багаслужэбныя кнігі самай Праваслаўнай Цэрквы.

Дык нічога дзіўнага, што ўсе хрысьціянскія народы ад часу паўстаньня Хрысьціянства да палавіны XI в., іменна да 1054 г., аб чым гутарка ніжэй, належалі да адней Хрыстовай Цэрквы на чале з Рымскім Папам. У гэтым часе ані грэкі, ані лаціняне, ані славяне не сумняваліся ў гэтым главенстве Папаў і жылі ў брацкай любові, згодзе і еднасьці. Знача, паўстала, узрасла і разьвілася беларуская цэрква так-жа ў еднасьці з Рымам.

Але на сьвеце заўсёды так бывае, што дабро мяшаецца са злом. Таксама сталася і з гэтай хрысьціянскай еднасьцяй на беларускіх землях у першым пэрыядзе беларускай гісторыі.

Зрываньне еднасьці пачалося з Царагроду, ад Грэкаў. Галоўнай прычынай разрыву была вялікая розьніца культуры Усходу і Заходу.

Справа ў тым, што Візантыйская імпэрыя пасьля ўпадку Заходняй Рымскай Імпэрыі, як мы ўспаміналі вышэй, з бегам часу ад яе цалком аддзялілася і жыла цэлыя доўгія сталецьці сваім асобным жыцьцём, паглыбляючы ўсьцяж далей і далей культурныя, духовыя і сацыяльныя розьніцы з Захадам.

Вось-жа на гэтай асноведзі пачаўся вялікі разьдзел адзінай Хрыстовай Цэрквы на Усходнюю — грэцкую — і на Заходнюю — лацінскую. Пачаў яго царградзкі патрыярх Фоці яшчэ ў IX ст. На шчасьце разьдзел гэты шырокіх разьмераў тады ў грэцкай Цэркве яшчэ ня прыняў і сусім не даткнуў Цэрквы беларускай і еднасьць хрысьціянская яшчэ трымалася ад гэтай сумнай спробы зрыву гадоў паўтараста.

Падзелу Цэрквы даканаў у палавіне XI ст. патрыах цараградзкі Міхал Керулары. Фармальна стаўся гэты сумны факт 16 ліпня 1054 г., калі папскія паслы з патрыархам адступнікам і бунтаром ня могучы дагаварыцца аб'явілі яму папскую анафему, кладучы яе публічна на аўтары ў саборы сьв. Софіі ў Царградзе.

Разьдзел гэты Цела Хрыстовага — Цэрквы быў на жаль трывалы і з бегам часу пусьціў глыбокія карэньні прадусім у Візантыі, а ў скорым часе дакаціўся так-жа і да недалёкіх ад

сябе зямель усходня-славянскіх агулам, а ў іх ліку і да зямель беларускіх.

Імпэратары Візантыйскія скарысталі з гэтага разьдзелу, падтрымлівалі яго, лёгка выкарыстваючы адарваную ад роднага цэнтру-Рыму грэцкую цэркву для палітычных сваіх мэтаў.

Але, ня гледзячы на гэты зрыў еднасьці царкоўнай у пал. XI ст. праз Візантыю, еднасьць гэта на Русі агулам, а так-жа і на землях беларускіх яшчэ даволі доўга трывала. Гісторыкі даказваюць, што беларуская Царква яшчэ была ў еднасьці з Рымам аж да пач. XII ст.

І сапраўды. Вось пасланцы папы Лявона IX, кінуўшы анафему на патрыарха-адступніка Керулара ў Царградзе, варочаліся праз Кіеў, гдзе былі гасьцінна прыманыя, і з Кіева, на жаданьне Візантыйскага імпэратара, выслалі яму копію гэнай анафемы. З гэтага ясна, што тагочасны Кіеўскі мітрапаліт Гіляры аставаўся яшчэ і далей у еднасьці з Рымам, а тымбольш была ў гэтай еднасьці залежная ад кіеўскай мітраполіі царква беларуская.

Наступныя мітрапаліты кіеўскія: Юры, Іван, Яфрэм і Мікалай (1068—1105), ня гледзячы на тое, што былі самі Грэкамі і назначаны патрыархам цараградзкім адступнікам, не пашыралі яшчэ разьдзелу, бо ў гэтым самым часе кіеўскія вялікія князі, як Ізяслаў Яраславіч і Усевалад Ізяславіч, былі ў прыязных адносінах з Апостальскай Сталіцай.

Ізяслаў Яраславіч у 1075 г. пасылае да папы Рыгора VII свайго сына і праз гэтага-ж сына сваё князьства аддае ў апеку папе.

Узноў-жа Усевалад Ізяславіч, калі папа Урбан II у 1091 г. мошчы сьвятога Мікалая загадаў перанесьці з грэцкага гораду Міры-Лікійскія ў горад італійскі Бары, устанавіў на памяць гэтых пераносінаў сьвята і данёс аб гэтым праз адумысловае пасольства ў Кіеў,—разам з мітрапалітам Яфрэмам прызнаў гэтае сьвята і завёў на ўсей Русі, а ў тым ліку і на землях беларускіх. Сталася-ж гэта тады, калі патрыярх царградзкі дэкрэт папскі аб гэным сьвяце адкінуў.

І так Цэрква беларуская, належачая да кіеўскай мітраполіі, ад пачатку свайго існаваньня — ст. IX—X і да XII, гэта знача праз гадоў якіх сто, была ў еднасьці з Рымам.

Стагодзьдзе XII, XIII, XIV і першая палавіна ст. XV—гэта час разьяднаньня беларускай цэрквы з Рымам. Праўда, і ў гэтым часе не бракавала асоб і фактаў, якія сьведчаць, што вялікая справа царкоўнай еднасьці цалком не замёрла, а ўсьцяж жыла ў Беларусі, каб у адпаведным часе ўзноў ускрэснуць.

Як знак гэнага хрысьціянскага адзінства ў Беларусаў Усходняй і Зах. Цэрквы, зьяўляюцца супольныя ў праваслаўных і каталікоў сьвятыя: Кірыл і Мяфод, Ольга, сьв. сьв. мучанікі Тодар і Іван, Уладзімер Вялікі, Барыс і Глеб,

Антоні Пячэрскі, Хвядос Пячэрскі, Афрасіньня (Прузына) і Параскевія (Параска) Полацкія, Кірыл Тураўскі.

Паасобных падобных фактаў, гаворачых аб некаторай яшчэ ў гэным часе лучнасьці на беларускіх землях з Рымам, можна прытачыць і шмат больш, але гэта ўсё было-б цалком лішнім, бо гэта ўсё належа да выняткаў у беларускай Цэркве, бо цэрква гэтая, як цэласьць, у еднасьці з Апостальскай Сталіцай, у ст. XII, XIII, XIV і ў палавіне ст. XV ужо ня была.

Цікава тут адзначыць, што час еднасьці беларускай Цэрквы з Рымам роўна прыпадае на першы пэрыяд беларускай гісторыі, калі нараджалася яшчэ беларуская народнасьць і калі яе палітычная самастойнасьць у асобе Полаччыны, асабліва за часаў слаўнага Усеслава (1044—1101), была дайшоўшы да высокага разьвіцьця.

(Літаратура: Власов фон Вальденберг — Исторія Россіи; Т. Коструба — Католицка правовірність Володимира Вел., Київський Митрополит Іван (ок. 1007—ок. 1020), Генеза Українського церковного права, Митрополит Іларіон (1051), Олексій Болгарин, Київський Митрополит (1021 — ?), Перша автокефалія української Церкви («Нова Зоря», 1938 г., №№: 63, 65, 69, 71, 75, 79); Ks. Edw. Likowski — Historya Unii Kościoła Ruskiego z Kościołem Rzymskim, Poznań, 1875 і — Unia Brzeska (1596), Poznań, 1896.)

## VI

## Што такое народ і Хрысьціянства ў працэсе тварэньня Беларускага народу ў першым пэрыядзе яго гісторыі.

*Што такое народ. Розныя тэорыі. Наш пагляд. Руйнуючая роль паганства. Будуючая роль Хрысьціянства.*

У XI—XII ст. ўвесь народ беларускіх князьстваў ужо быў хрысьціянскім. Хрысьціянства пранікала сьпярша да вышэйшых клясаў, а пасьля і да шырокіх народных масаў. Прыгледзімся-ж, якую роль адыграла Хрысьціянства ў гэтым часе ў працэсе тварэньня беларускай нацыянальнасьці.

Але прад тым не адрэчы тут будзе запытацца, якія дзейнікі ўплываюць на тое, што паўстае нацыянальнасьць, ці проста — што становіць нацыянальнасьць? Звычайна адну нацыю ад другой выдзяляюць і адрожніваюць: язык, тэрыторыя, звычаі і абычаі, рэлігія. Часта можна спаткацца з паглядам, што гэтыя іменна асаблівасьці якога народу і зьяўляюцца ягонай нацыянальнай сутнасьцяй. Але пагляд гэткі ня-

пэўны. Усе гэтыя нацыянальныя асаблівасьці якога народу ў сваю чаргу патрабуюць выясьненьня, адкуль яны бяруцца і ці бяз іх магчыма нацыя?

Аб тым, што такое народ, у навуцы існуюць гэткія пагляды: аб'ектыўны, суб'ектыўны і кампрамісны, які гэныя два пагляды годзе між сабой і луча ў вадну цэласьць.

Кірунак *аб'ектыўны* апірае паняцьце народу ці нацыянальнасьці на прыкметах зьверхніх, якія можна дасьледжваць досьледам, якія можна абсэрвуваць, наглядаць. Гэткімі прыкметамі зьяўляюцца: раса, язык, рэлігія, супольныя звычаі і абычаі, супольная тэрыторыя і зьвязаныя з ей: клімат, геапалітычнае палажэньне, і ўрэшце супольны для данай нацыянальнай групы назоў, розны ад іншых суседніх нацыянальных групаў. Паводле гэткага разуменьня народ ёсьць супольнасьцяй грамадзкай натуральнай, прыроднай, якую стварыла сама прырода.

Кірунак *суб'ектыўны* ў азначаньні народу адкідае рашучае значэньне дзейнікаў натуральных і кладзе націск на сувязь маральную, на агульную волю сужыцьця, на сьведамасьць супольнасьці.

Кірунак урэшце *кампрамісны* годзе гэтыя два кірункі і луча іх у вадзін. Паводле яго для існаваньня якога народу патрэбныя як натуральныя гэныя прыкметы, так і маральныя, псыхічныя, патрэбная сьведамасьць, якая ёсьць вы-

нікам гэтых прыкметаў ці лепш дзейнікаў натуральных.

Да ўсіх гэтых кірункаў прыгледзімся бліжэй і папарадку. Кірунак аб'ектыўны на першы плян высоўвае *расу*, як першую прыкмету народу. Раса — гэта ёсьць супольнасьць паходжаньня з аднаго пня. Ці аднак сучасныя народы сапраўды паходзяць ад аднаго пня і маюць супольную кроў? Сучасныя навуковыя ў гэтай галіне досьледы паказваюць, што не. Гістарычныя варункі прычыніліся да таго, што сяньня сярод цывілізаваных народаў чыстай расы няма. Уся Эўропа, уся Амэрыка — гэта сяньня мешаніна рознаякіх этнічных элемэнтаў. Сучасныя цывілізаваныя народы—гэта мешаніна розных расаў, якія між сабой палучыліся, дзякуючы рознага роду падзеям гісторыі. Пэўне, у старадаўнасьці, калі паўставалі народы, многія з іх паходзілі з супольнага пня і гэта ў вялікай меры спрыяла нацыянальнаму працэсу, але раса аднак ня была істотнай прыкметай іх нацыянальнасьці. Трэба так-жа ведаць, што існуюць і сяньня расы, якія не паддаліся аж да сяньня асыміляцыі, як раса чорная, жоўтая, а так-жа ў вялікай меры сэміцкая. Але і для іх прыкмета расы ня ёсьць істотным нечым, бо й яны ў працэсе гістарычным могуць асымілявацца, могуць пазбывацца сваей расы, але адначасна аставацца асобнымі народамі. Прыкладам гэтага ёсьць Жыды. З гэтага бачым, што раса ня

ёсьць нечым абавязкавым у паняцьці нацыянальнасьці, але яна ўсё-ж ёсьць тым матарыялам, з якога пазьней гісторыя твора народ. І чым больш захавалася ў якім народзе асобнасьці расовай, асобнасьці яго супольнага паходжаньня ад аднаго пня, тым выразьнейшая яго нацыянальная індывідуальнасьць. Беларускія пляменьні, прад тым, як з іх стварыўся беларускі народ, пэйне-ж, мелі ўжо дамешку крыві чужых ім плямёнаў, як напрыклад — Скіфаў, Сарматаў, Готаў, Фінаў, Літоўцаў, аднак асеўшы там, дзе жыве сяньня беларускі народ, яны ўжо дамешкі чужой да сваей крыві мелі дужа мала і далей разрасталіся ўжо з аднаго сваяцкага пня. Пазьней аднак да беларускага народу даходзіла дамешка крыві Маскоўцаў, Украінцаў, Палякоў, Літоўцаў. З гэтага бачым, што і аб беларускай расе, як такой, як чыстай расе, гаварыць ня прыходзіцца. Знача, супольнасьць расы, супольнасьць паходжаньня ня ёсьць нечым канечным для паўстаньня, для стварэньня народу, а так-жа яна ня ёсьць крытэрыем, які адрожнівае адзін народ ад другога.

*Язык* так-жа не становіць *сутнасьці* народу, нацыі. Язык можа астацца, а нацыя можа зьгінуць. Напрыклад Грэкі: этнографічны склад Пэлёпонэзу быў зьменены цалком наездам Альбанцаў і Славян. Этнографічная непрарыўнасьць магла тут захавацца можа толькі на берагох. Але захаваўся народны дыялект і сяньняшнія

грэцкія патрыёты як мага стараюцца прыблізіць яго да стара-грэцкага. І такіх прыкладаў можна знайсьці ў гісторыі шмат. І наадварот — бывае і так, што язык гіне, а нацыя астаецца. Клясычным гэтага прыкладам зьяўляюцца Жыды. Далей, некалькі нацыянальнасьцяў у лацінскай Амэрыцы гавораць языком гішпанскім і партугальскім, языком заваёўнікаў і каляністаў. Амэрыкане, жыхары Зл. Ст. Амэрыкі, гавораць паангельску, але зьмяняюць яго на свой лад, не прызнаюць яго сваім і не прызнаюць сябе Ангельцамі. Швайцарцы гавораць пафранцуску, нямецку, італьянску, чужым языком, але лічаць сябэ Швайцарцамі. Знача, язык сам па сабе так-жа не становіць нацыянальнасьці.

Далей, *тэрыторыя* (і злучаны з ей клімат і геопалітычнае палажэньне), так-жа яшчэ ня творыць нацыянальнасьці. На аднэй тэрыторыі, якая ёсьць цалком аднароднай, жывуць розныя народы, як Бэльгія і Францыя, Беларусы і Расейцы. І наадварот — на розных тэрыторыях жывуць сусім аднолькавыя ці падобныя народы. Каб не гаварыць аб народах Эўропы, відаць гэта на народах някультурных. Так напр. Папуасы і Маляйцы вякамі жывуць вобак сябе, у тых-жа трапічных краёх, а самі астаюцца сусім рознымі. Ёсьць так-жа нацыянальнасьці і сусім бяз тэрыторыі, як тыя-ж Жыды і Цыганы.

*Звычаі і абычаі* гэтаксама не зьяўляюцца сутнай асаблівасьцяй нацыянальнасьці. Гэтыя

асаблівасьці найбольш зьменныя і лёгка сьціраюцца пад уплывам культурнага разьвіцьця і моды, але сама нацыянальнасьць ад гэтага не зьмяняецца.

Ня ёсьць урэшце прыкметай нацыянальнасьці і *рэлігія.* Гэта сусім ясна. Каталіцкія Гішпанцы, Італьянцы, Французы, Немцы і г. д. аніяк не прызнаюць сябе адным народам, хоць яны вызнаюць адну веру. Не становяць аднэй нацыянальнасьці Расейцы, Беларусы, Сэрбы, Румыны, Украінцы і інш., хоць яны праваслаўныя.

Некаторыя вучоныя яшчэ цьвердзяць, што *назоў* так-жа ёсьць складовай, бадай істотнай, прыкметай нацыі, народу. Але гэтая прыкмета ёсьць найменш важнай. Кожны народ такі ці іншы назоў сабе мае. Але мае яго так-жа і кожная, ня толькі этнічная, але нават звычайная рэгіональная група, як у Палякоў: курпы, куявякі, кракавякі і г. д., у Беларусаў: паляшукі, сакуны, у Літоўцаў: жмудзіны, дзукі. Але-ж гэтыя групы ня ёсьць асобным народам. Трэба аднак прызнаць, што адпаведны назоў якога народу, асабліва таго, які нараджаецца ці адраджаецца, як мы Беларусы, мае хоць ня істотнае значэньне, але вялікае і дзеля гэтага нам Беларусам трэба добра прызадумацца, ці не заменіць чужога нам назову «рускі» на ўласны «крывіч». Але гэта, як мы ўжо раз у гэтай працы гаварылі, належа да будучыні.

Гэтак вуча тэорыя кірунку так званага аб-

ектыўнага. Яна, уважаючы народ за твор чыста прыродны, усей праўды аб народзе ня кажа, яна шмат у чым мыляецца.

Кірунак суб'ектыўны, як мы ўжо адцемілі, за сутнасьць народу ўважае толькі вязь маральную, псыхічную, толькі сьведамасьць, толькі супольную волю. Але і гэтая тэорыя, маючы шмат у сабе праўды, шмат у чым так-жа і мыляецца. А памылка яе ў тым, што яна не дацэнівае прыродных дзейнікаў і сутнасьць нацыі тлумача выключна толькі дзейнікам псыхічным, дзейнікам гісторыі і культуры.

Адгэтуль ясны выснаў, што народ становяць прыкметы натуральныя, хоць усе яны яшчэ істотнага значэньня ня маюць, і што апрача іх патрэбная ёсьць супольная сьведамасьць і супольная воля, як дзейнік завяршаючы паняцьце народу. Пры гэтым трэба адцеміць, што гэтая псыхічная, маральная прыкмета ня ёсьць вытварам гэных натуральных дзейнікаў, як гэта многія ўважаюць, а наадварот — гэны псыхічны маральны дзейнік ці элемэнт, хоць спачатку нясьведама, існуе раней ад гэных дзейнікаў прыроды, або, разам з імі, існуе ў душы чалавека, а які прырода і абставіны жыцьця толькі выклікаюць і ўспамагаюць яму разьвівацца. Агульнай асновай гэтага правіла зьяўляецца прынцып: — homo est animal sociale — чалавек стварэньне сацыяльнае, грамадзкае, а знача, — у далейшым сваім гістарычным працэсе

— стварэньне і нацыянальнае. Тыя групы людзей, якія мы сяньня называем народамі, не зьяўляюцца нейкім раптоўным плодам прыроды. Іх паяўленьне — гэта вынік павольнай і доўгай эвалюцыі. Яны ня ёсьць плодам сужыцьця прыпадкам сабраных людзей, але вынікам арганічна разьвіваўшайся супольнасьці, адзінства, маючай сваё асаблівае жыцьцё зьверхняе і ўнутранае. Народныя прыкметы, ці народная асабовасьць, не тады паявіліся, калі людзі сабраліся разам, бо-ж яны фактычна і сабраліся, кіраваныя гэным сацыяльна-духовым інстынктам, унутраным наказам сваей душы, каб жыць разам, дзеля бліжэй ім яшчэ нязнанай супольнасьці. Знача, народ ёсьць пярвейшым за гэную сваю нацыянальную сьведамасьць, бо сьпярша трэба быць, а толькі пасьля ўсьведаміцца.

Вось-жа разьвіцьцё грамадзкага інстынкту людзей, якіх гэты інстынкт панукае зьбірацца ў групы і жыць супольна, у апошнім сваім выніку пры помачы дзейнікаў прыродных твора нацыянальнасьць, твора народ. Пачуцьцё супольнасьці — гэта як-бы завяршэньне гэнага творчага сацыяльнага нахілу ў чалавека. Але, каб гэнае пачуцьцё стварылася і пачало існаваць, мусяць быць нейкія дзейнікі, праводзячыя гэтую работу і служачыя матарыялам. Такімі дзейнікамі, такім матарыялам зьяўляюцца ў большай ці меншай меры, усе, ці некаторыя,—гэныя дзейнікі натуральныя і псыхічныя, якія так

ці йнакш прычыняюцца да стварэньня народу. Адным з галоўных, а можа найгалаўнейшым з іх, ведама, зьяўляецца язык. Ён ёсьць злучвом і праваднікам супольнасьці нацыянальнай кожнага народу. Вялікую так-жа, гэткую-ж спалучаючую роль, прынамсі ў многіх выпадках, іграе так-жа і рэлігія. У тварэньні беларускай нацыянальнасьці ў гэтым значэньні вялікую роль адыграла рэлігія хрысьціянская. Да разгляду чаго далей і прыступаем.

Вось-жа Хрысьціянства, як новая рэлігія, што прыйшла на зьмену паганства сярод беларускіх плямён, вобак з іншымі дзейнікамі, што ў гэтым першым пэрыядзе беларускай гісторыі прычыняліся да працэсу паўставаньня беларускай нацыянальнасьці, іграла ў гэтым кірунку выдатную, а мо' і галоўную роль. Праўда, прычынялася да паўстаньня беларускай нацыянальнасьці лучнасьць між бел. плямёнамі географічная — яны былі даволі добра ізаляваныя ад суседніх плямён рэкамі, лясамі і балотамі. Была між імі так-жа географічная лучнасьць і ўнутраная: яны, жывучы адны вобак другіх, мелі больш між сабой супольнай сутычнасьці, як з плямёнамі далейшымі. Бязумоўна, была між імі і лучнасьць этнографічная расовая, гэта ёсьць: была сьведамасьць супольнага паходжаньня, языка і быту. Існавала так-жа між імі і сувязь палітычная: такой былі—сьпярша абеднаваючыя іх уласныя князі, а пасьля варагі-

русы. Усё гэта мела ўплыў на паўставаньне беларускай нацыянальнасьці. Але калі паявілася ў Беларусі Хрысьціянства, яно сапраўды аказалася ў гэтым кірунку дзейнікам асабліва важным і бадай адзіным у сваім родзе.

Хрысьціянства прадусім прынесла ў Беларусь граматнасьць. Праўда, гісторыя кажа, што ў нашых продкаў ужо нейкая граматнасьць і раней была. Але гэта была граматнасьць прымітыўная і ізаляваная цалком ад тагочаснага культурнага сьвету. Хрысьціянства-ж прынесла Беларусі граматнасьць, з аднаго боку дапасаваную да патрэб і душы беларускіх плямён, а з другога — апёртую на клясычнай грэцкай і часткова лацінскай культуры. Гэтая граматнасьць давала нашым продкам магчымасьць сутыку і ўчасьця ў дарах тагочаснай культуры і цывілізацыі. А гэта ўсё пабуджала творчы інстынкт народу і разьвівала яго нацыянальную асablівасьць, прычыняючыся гэтым да большага зьліцьця гэных нашых плямён у вадно цэлае нацыянальнае. Праз граматнасьць нашы продкі мелі магчымасьць раўняць сваё жыцьцё з жыцьцём цывілізаваных народаў і імітаваць яго, або проста ісьці за яго прыкладам.

Далей, Хрысьціянства, як рэлігія, лучыла і яднала беларускія плямёны ў вадно цэлае і нацыянальна-асобнае, вытвараючы супольную ў народзе веру, пагляды, традыцыі, культуру, супольную народную душу. Праўда, Хрысьціян-

ства шырылася ў мове супольнай сьпярша й для іншых усходніх славянаў, але яно, ня гледзячы на гэта, было магутным сродкам супольнага яднаньня ўнутранага, а з бегам часу, сягаючы да душы народу, вытварала і закрапляла нацыянальныя, свомыя толькі Беларусам, асаблівасьці.

Асабліва ў працэсе тварэньня беларускай нацыянальнасьці Хрысьціянства рашучую ігра-ла роль у тым, што тварыла родную інтэлігенцыю, якая была мазгом і памяцяй народу, што, пры свайго роду дэмакратычным ладзе нашых продкаў у гэным часе, давала магчымасьць Хрысьціянству пранікаць ад слаёў вышэйшых у шырокія народныя масы. Бо трэба ведаць, што ні князі, ні баяры не маглі яшчэ тварыць нацыянальнасьці. Яны толькі як-бы абдумвалі нацыянальную народу еднасьць, ставілі нацыі супольную мэту, падгатаўлялі гэтым спосабы і сродкі далейшага супольнага аб'еднаваньня. Але сапраўдны нацыянальны рух паяўляецца толькі тады, калі ўвесь гэты аб'еднаваючы працэс ахватвае масы. А гэта бывае звычайна тады, калі ў галаве і ў сэрцы кожнага сябры нацыі запальваецца агульная ідэя. Такой ідэяй у гісторыі народаў бывае звычайна ідэя рэлігійная. У нас, у першым ужо пэрыядзе нашай гісторыі, такой ідэяй была ідэя хрысьціянская, якую ў масы народныя нясла вышэйшая асьвечаная кляса: ваякі, баяры, духавенства.

Паганства-ж падобнай ролі адыграць не магло.

Рэлігія паганская ў Беларусаў была рознаякая, раздробленая, з многімі прымітыўнымі і наіўнымі абрадамі і багамі. Гэта рэлігія служыла не паўстаньню і ўзросту беларускай нацыянальнасьці, але, наадварот, — яе раздробленьню і расьцярушаньню. Сусім што іншае Хрысьціянства. Яно праз сваё адзінства, праз свой высокі ідэалізм, праз сталасьць і аднаякасьць і сваей навукі і абраду, праз прасьветную сваю дзейнасьць было *на зары беларускай гісторыі* магутным сацыяльным дзейнікам, злучаючым беларускія плямёны, беларускія князьствы, беларускія нацыянальна яшчэ неаформленыя масы ў адзін суцэльны народ.

Гэткую-ж роль адносна беларускай нацыянальнасьці Хрысьціянства іграла і пазьней. За часаў у беларускай дзяржаве *літоўскай дынастыі,* калі ў нас ужо панавала праваслаўе, Беларускі народ, баронячыся ад наступу на Беларусь лацінізму і палёнізму, бараніў ня толькі сваю рэлігію, але так-жа і нацыянальнасьць, ажыўляючы і паглыбляючы ў масах яе супольнасьць і адзінства.

Узноў-жа, за часаў *уніі,* калі культурныя і багатыя клясы пакінулі народ, пераходзячы ў лацінізм і польскасьць, і калі гэтыя апошнія штораз больш насядалі на народ, ён, баронячы сваю уніяцкую веру, свой усходні абрад, бара-

ніў і цэмэнтаваў далей і беларускую сваю нацыянальнасьць.

Калі-ж уся Беларусь у канцы XVIII ст. знайшлася *пад царскай Расеяй,* калі царская палітыка унію перавяла ў праваслаўе і зрабіла з яго палітычнае аружжа, зьвернутае проціў Беларусаў, калі настаў для нашага народу найгразьнейшы час, — і тады Хрысьціянства аказалася апорай беларускай нацыянальнасьці. Лацінскае каталіцтва тады ў Беларусі падтрымлівала і зьберагала да лепшых часаў беларускую нацыянальную ідэю.

Факт, што Хрысьціянства зьяўляецца ў нашай гісторыі творывам і апорай беларускай нацыянальнасьці, тлумачыцца прадусім тым, што яно ўводзіць дужа блізкі і глыбокі духовы кантакт у народных гушчах, які, часта нясьведама, падтрымлівае і твора нацыянальнае пачуцьцё і якога зьнішчыць ня могуць ніякія палітычныя махінацыі, бо да яго не дасягаюць. Гэтым іменна тлумачыцца і тое, што і за панаваньня над Беларускім народам расейскіх цароў праваслаўная цэрква, ня гледзячы на навязаньне ей ролі вынарадаўляньня Беларусаў, цалком іх не зрусыфікавала і яны далей асталіся Беларусамі.

Гэткім, як бачым, Хрысьціянства ў Беларусі ў першым пэрыядзе яе гісторыі было магутным і ўсестаронным дзейнікам, аб'еднаваючым беларускія плямёны ў адзін асобны самастойны народ, уводзячы яго апрача гэтага ў сям'ю цы-

вілізаванага сьвету і асьвячаючы беларускую народную мову, як мову рэлігіі, культуры і агулам асьвечанага жыцьця, назаўсёды. Гэткім яно было адносна бел. народу і пазьней. Але аб гэтым далей.

(Літаратура: **П. Милюков** — Національный вопрос, Прага 1925; **St. Kodź** — Zasada narodowości, Wilno 1932; **A. Maceina** — Tautinis Auklėjimas, Kaunas 1934; **Д. Багалѣй** — Русская Исторія; **В. Липинский** — Релігія і Церква в історії Украіни, Львів 1933.)

---

## VII

## Беларусь з Літвой. Праваслаўе апора й творыва беларускай нацыянальнасьці
*(XIII—XVI)*

*Агульная характарыстыка беларуска-літоўскага пэрыяду. Аддаленьне Беларусі ад шкодных і варожых уплываў. Праваслаўе — пануючая вера Беларусі. Рэфармацыя. Езуіты й Праваслаўная Царква. Праваслаўе бароніць «веру бацькоў» і беларускую нацыю. Узрост беларускай культуры. Культура сьвецкая й Хрысьціянства. Наступ Польшчы. Спын беларускай культуры.*

У гісторыі Беларускага Народу пасьля існаваньня паасобных княстваў, пасьля так зв. полацкага пэрыяду, калі сярод гэтых княстваў верхаводзіла й пераважна незалежна трымалася Полацкае, настаў так зв. пэрыяд беларуска-літоўскі, ці мо' лепш пэрыяд суцэльнага беларускага дзяржаўнага жыцьця з дынастыяй літоўскіх князёў. Час гэты прыпадае на XIII—XVI ст. Для беларускай нацыянальнасьці час гэты прынамсі спачатку быў даволі памысным. На паўд-

ні ўкраінскія й адчасьці маскоўскія плямёны й іх дзяржаўнае й культурнае жыцьцё руйнавалі сьпярша дзікія народы — Печанегі й Полаўцы, а пасьля з большымі ці меншымі перарывамі на працягу гадоў двухсот (1237—1480) татарскія орды. Дзякуючы іх нападам, Кіеў у 1240 г. быў збураны. Культурны й царкоўны цэнтр быў перанесены ў Маскву. Туды перанёсься кіеўскі мітрапаліт у 1328 г. У 1341 г. Масква сталася сталіцай новага маскоўскага гаспадарства. У 1589 г. у Маскве заложаны патрыярхат. Тымчасам землі беларускія, дзякуючы прадусім іх геаграфічнаму палажэньню, бо ляжалі далёка ад гэных дзікіх народаў, былі пакрыты лясамі й ад паўдня былі заслонены пінскімі балотамі, асталіся паза іх уплывамі й наездамі.

Калі землям украінскім і маскоўскім найбольш гразіла татарская навала ў XIII ст. і калі ўжо ў XIV ст. напірала на Беларусь Польшч і Маскоўскае князьства, Беларусь у гэтым часе ўжо, разам з большай часткай зямель украінскіх, апынулася ў аб'яднаньні з Літвой, на якую у свой чарод напіралі рыцары ордэнаў лівонскага й тэўтонскага.

Аб'яднаньне Беларусі з Літвой аддзяляла наш народ ня толькі ад паўдня й забесьпячала ад нападаў і ўплываў гэных дзікіх народаў, але так-жа й ад Масквы, якая ўжо пачынала заяўляць свае прэтэнсіі на ўсе ўсходня-славянскія землі й народы, апіраючыся адно толькі на чу-

жацкай, накінутай усім гэтым народам, назове «Русь» — дзела варагаў-русаў — і на адзінстве хрысьціянскай, усходняга абраду, веры. Гэткае аддзяленьне Беларусі ад паўдня й ад поўначы й палітычнае аб'яднаньне з Літвой мела вялікае значэньне дзеля далейшага выпрабленьня й консалідацыі беларускай нацыянальнасьці. У гэтым-жа пэрыядзе, ужо ў XIII—XIV ст., беларуская нацыянальнасьць і беларуская мова зложылася ў нацыянальнасьць суцэльную й самабытную, якая пазьней разьвілася да даволі вялікіх, як на той час, разьмераў. На гэты час прыпадае пэрыяд росквіту беларускай культуры, а ў XVI ст. пэрыяд залатой яе пары.

У 1386 г., як ведама, дзеля палітычных мэтаў наступіла унія Беларусі й Літвы з Польшчай. Дзякуючы аднак зьлітнасьці й цьвёрдай самастойнасьці беларускай нацыянальнасьці й беларускай культуры, унія гэта асталася уніяй толькі на паперы, бо нашая дзяржава далей асталася фактычна сусім незалежнай. І нічога дзіўнага: беларуская мова панавала ў урадзе, у судзе, у палацах і канцэлярыі вялікіх князёў, была мовай культуры, навукі, школы, цэрквы. У архівах цяпер знаходзіцца вялікі запас розных культурных памяткаў беларускіх з гэтага часу. Каб аслабіць беларускую самастойнасьць (і літоўскую) з боку польскага, уніі панаўляюцца й на паперы ўрэзваюць беларускую самастойнасьць, але толькі на паперы, бо жыцьцё

рускага, якога фрагмэнты ўсьцяж у Беларусі аставаліся. Гэтае праваслаўе агулам было ўжо тым, чым фактычна ў Беларусі было й польскае лацінскае каталіцтва.

І як ня дзіўна, — і ў гэтай цёмнай беларускай пустыні зоркай праводнай, што крыху сьвяціла ў цемры, была... уніяцкая царква.

Беларуская культура ў пач. XIX ст. мела яшчэ, хоць праўда незавіднае, але пэўнае прыпынішча ў зацішшы ўбогай, як і сам народ, уніяцкай цэрквы. Культура гэта нават у той час, калі унія ўжо была сполёнізаваная, усё-ж яшчэ апіралася на тэй-жа уніі, падтрымлівалася яе традыцыяй, падтрымлівалася яшчэ запасамі сіл даўнай яе мінуўшчыны, бо унія вякамі тварыла беларускую культуру ў форме кніг літургічных, малітаўнікаў, трэбнікаў, кніг зьместу рэлігійнага й агулам прасьветнага. Унія ў гэным часе на нашых землях—гэта была сапраўды адзіная апора беларускай культуры, бо яна адна адзіная была зьвязана арганічна з народам і з патрэбамі яго душы, адна адзіная гэтай душы як магла і чым магла служыла. Усё-ж іншае тады было пастаўлена процiў гэтага народу. Гуляла паншчына на беларускіх землях і адбывалася між Палякамі й Маскоўцамі барацьба за душу беларускую. І толькі аж на дне свайго ўпадку душа Беларуса, паддзержавана крыху Уніяй, трымалася пры жыцьці, ня трацячы ніколі надзеі на лепшыя часы, на сваё адраджэньне.

Аднак і на гэты раз ня было яшчэ Уніі суджана на беларускіх землях разьвівацца й жыць далей. Дзьве сілы — Польшч і Масква—ў сваей палітычнай барацьбе за нас, у той час, у першую чаргу, як мы бачылі, хваталіся за рэлігію, робячы з яе аружжа сваей палітыкі. Ад гэтай палітыкі з боку Польшчы Унія яшчэ сяк-так магла бараніцца, хоць-бы дзеля таго, што за яе ўступаўся Папа Рымскі й што народ беларускі агулам сваей мовай і народнай псыхікай, як мы ўжо ўспомнілі, значна розны ад народу польскага. Але шмат трудней было змагацца, ды бадай цалком немагчыма, з Расеяй. Маскоўскае царства, сіла якога ўсьцяж расла, урэшце ў канцы XVIII ст., між іншымі, усе беларускія землі далучыла да сябе, забіраючы іх ад Польшчы.

Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі пачынаецца для яе гісторыі новы пэрыяд — расейскі. Вось-жа й Унія, будучы цесна зьвязана з Беларускім народам пасьля ўплыву 243 гадоў свайго існаваньня, як убачым, разам з народам дзеліць свой лёс.

У 1795 за часоў царыцы расейскай Кацярыны наступіў аканчальны падзел Польшчы й уся Беларусь была далучана да Расеі.

Пасьля гэтага пры тэй-жа Кацярыне процiў Уніі павёўся ўжо выразны й цяжкі прасьлед. Усе уніяцкія епархіі, апрача аднэй так званай беларускай у Полацку, былі скасаваны. Расейскі ўрад уважаў тады, што ў Расеі маюць

рацыю быту веры — праваслаўная, зразумелая рэч, — і каталіцкая, лацінскага абраду, а Унія аставацца не павінна, бо з яе, праўда, пераходзілі ў лацінства, што яшчэ Кацярына магла цярпець, але магло стацца й так, што з Праваслаўя маглі пераходзіць]у Унію. У рэзультаце расейскай у гэтым часе палітыкі за ўвесь час царстваваньня Кацярыны з Уніі у Праваслаўе было пераведзена да двух мільёнаў Беларусаў і Украінцаў.

За часоў цароў Паўла I і Александра I палажэньне уніятаў значна палепшылася. Так напр. у 1806 г. у Полацку была яшчэ нават заложана уніяцкая духоўная сэмінарыя.

Аднак агулам націск расейскіх цароў на Унію ўсьцяж узмагаўся й гады яе там існаваньня былі ўжо палічаны. Рашучы для Уніі мамэнт настаў за часоў цара Мікалая I і епіскапа адступніка уніяцкай літоўскай (віленскай) епархіі Язэпа Семашкі. У гэтым часе уніяцкая цэрква мела яшчэ дзьве беларускія епархіі: віленскую, з сталіцай епіскапскай у Жыровіцах, і полацкую.

Мікалай I быў адкрытым ворагам Уніі й усякімі способамі імкнуўся да яе ліквідацыі. Скрыта, але так-жа рашуча памагаў яму ў гэтым успомнены Семашка з такімі-ж адступнікамі, як і сам, — епіскапамі уніяцкімі — Ант. Зубко й Базылім Лужынскім. Гэтая дабраная тройка, апіраючыся прадусім на паліцэйскіх уладах, ліквідавала Унію ўсімі сіламі.

Унія, як мы ўжо ўспаміналі, за ўвесь час свайго на Беларусі існаваньня так зраслася з беларускім народам, што ліквідаваньне яе магло адбыцца ўжо толькі пры помачы гвалтаў, што сыстэматычна й рабілася. Вось-жа й сапраўды ліквідацыі Уніі спраціўлялася як духавенства, так і людзі сьвецкія, а прадусім беларускія сяляне. У гісторыі ліквідаваньня Уніі асаблівымі жорсткасьцямі паліцэйскія расейскія ўлады адзначыліся ў Дзярновічах (Вітэбшчына), у Поразаве, Кляшчэлях (Горадзеншчына), Селішчы, Сьвятлілава, Пузырэва (Магілёўшчына) і г. д.

З гэтага бачым, што ліквідаваньне Уніі сапраўды не пашло царскаму ўраду так лёгка, як ён гэтага жадаў і як пазьнейшыя ўрадавыя расейскія гісторыкі гэта даказвалі. Фактам ёсьць гістарычным, што народ беларускі сваей веры шмат дзе актыўна бараніў проціў расейскіх гвалтаў.

Каб зламаць гэтую апазыцыю уніяцкую, паводле пляну Семашкі пры ліквідацыі Уніі ўжываліся грубыя паліцэйскія спосабы. I так апорныя уніяцкія сьвяшчэньнікі пераводзіліся ў горшыя прыходы, або й сусім іх часта пазбаўляліся, назначаліся замест на сьвяшчэнскія —на пасады псаломшчыцкія, ссылаліся ў Расею, замыкаліся ў манастыры. Спосабы Семашкі навярачваньня уніятаў на Праваслаўе былі так нехрысьціянскія й так гвалтоўніцкія, што нават выклікалі яны

агіду й у лепшых уладыкаў праваслаўных. Так напрыклад, як кажа сьвяшч. М. Морошкін, некаторыя з іх не сьцясьняліся выражаць Семашцы аткрыта сваю пагарду, а епіскап палтаўскі Гедэон называў яго проста Юдам Прадацелем.

Ня гледзячы аднак на ўсё гэта, Семашка сваіх мэтаў у адносінах да Уніі дапяў. Унія ў 1839 г. была ўрэшце зломлена. 1839 г. цар Мікалай на падставе акту адступніцтва ад Уніі, падпісанага Семашкам, Зубкай і Лужынскім, а так-жа зламаным духавенствам уніяцкім, афіцыяльна Унію скасаваў і ўсіх уніятаў далучыў да цэрквы расейскай. Расейскі ўрад такім чынам дапяў таго, аб чым Масква лятуцела ўжо спрадвякоў.

Гэтак перастала Унія існаваць у Беларусі. Але асталася яна ў украінскай Холмшчыне, дзе пазьней была скасавана яшчэ большымі гвалтамі, як у Беларусі, і асталася ў Галіччыне, адыйшоўшай ад Польшчы да Аўстрыі, дзе яна працьвітае й сяньня й зьяўляецца сапраўднай нацыянальнай апорай каля чатырох мільёнаў Украінцаў уніятаў, зьяўляючыся адначасна якбы злучвом мінуўшчыны унійнай з сучаснасьцяй.

І так адвечная мрыя маскоўская далучыць да сябе землі беларускія й беларускую цэркву, як свае вотчыны, збыліся. А выканаў іх, як бачым, адступнік ад Уніі й народнасьці Я. Семашка, родам Украінец. Што яго да гэтага накіравала? Мо' кар'ера, ласкі цара, слава? Пэўне, што й гэ-

та. Па сваім характары, як гэта ясна відацца з яго запісак, Семашка кар'ерыстым быў сапраўды. Але ня трэба забывацца, што калі дзеіць у гісторыі адзінка, то яна дзеіць ня толькі дзеля сваіх чыста самалюбных прычын, але дзеіць яна й дзеля прычын культурна-сацыяльных, у асяродку якіх адзінка гэна жыве й нясьведама яму паддаецца. Вось-жа надта магчыма, што ў Семашкі адазвалася старадаўная родная мінуўшчына. Надта магчыма, што праз зьліквідаваньне Уніі, якая ўжо ў сваей прадусім вонкавай форме шмат у чым ад гэных традыцыяў была адхіліўшыся й то ў бок польскі й праз перавядзеньне яе вызнаўцаў у расейскае праваслаўе Я. Семашка думаў прыблізіцца да формы рэлігійна-культурнай сапраўды роднай, цалком згоднай з душой украінскага й беларускага народу, зварочваючы гэтыя народы на сапраўды іх уласны гістарычны шлях. Усё можа быць. Але факт астаецца фактам, што процыунійная дзейнасьць Семашкі не па гістарычнай дарозе пакіравала як беларускую цэркву, так і беларускі народ. Акт гэты ў беларускай гістарычнай пэрспэктыве памылковы й шкодны.

Тымчасам, не касаваць Семашка павінен быў Унію, калі Беларусь апынулася ў Расеі, але падтрымліваць яе, бараніць ад маскоўскага націску на яе й адначасна старанна яе ачышчаць ад усякіх на яе наростаў чужацкіх, як польскіх, так і маскоўскіх, аддаляючых Унію, як ад стара-

даўных хрысьціянскіх традыцыяў і царкоўных стара даўных формаў і правілаў, таксама й ад родных народу карэньняў. З пункту гледжаньня беларускага гістарычнай мэтай Семашкі павінна было быць за ўсякую цану, за цану нават свайго жыцьця, бараніць Унію. Праўда, як відаць з тагочасных палітычных настрояў да Уніі расейскай палітыкі, Унія ўсёроўна была-б зламанай, але ў кожным выпадку пры старанным за яе змаганьні з боку Семашкі, замест змаганьня з ёй, Унія магла-б пратрываць даўжэй і яшчэ выдатнейшую адыграць роль у часе для Беларусаў найгразьнейшым, якую яна іграла для народу ў мінуўшчыне. Калі-б беларускі уніяцкі епіскапат, замест здрады Уніі, акружыў яе сапраўды хрысьціянскай любоўю, як гэта так часта рабілі беларускія сяляне, дык тады-б Унія, хоць-бы ў рэзультаце зламана царскай паліцыяй, цяпер была-б у нашай духовай уяве ясьнейшай, чым гэта ёсьць сяньня,—была-б тым, чым яна сяньня на дзеле ёсьць для украінскага народу ў Галіччыне. Апрача гэтай Галіччыны, бадай яшчэ лепшым доказам праўдзівасьці нашых думак зьяўляецца сяньняшняя Расея, як з пункту гледжаньня рэлігійнага, так і нацыянальнага беларускага.

Акт скасаваньня Уніі на беларускіх землях у 1839 г. быў супярэчны з усей мінуўшчынай беларускай, як царкоўнай, так і народнай. Акт гэты рваў прадусім з тэй хрысьціянскай една-

сьцяй беларускага хрысьціянскага жыцьця, якая была асьвячана першымі вякамі паўстаньня ў нас Хрысьціянства, далей рваў з абнаўленьнем гэнай еднасьці — з Уніяй Флёрэнтыйскай і Берасьцейскай,—а ў выніку ўсяго гэтага рваў ён і з культурай агулам і культурай беларускай.

Не адрэчы тут будзе так-жа ўспомніць тое, што той-жа Семашка беларускія уніяцкія кнігі, як сам да гэтага прызнаецца, нішчыў і паліў, як і езуіты ў XVII ст. Ды і ўся палітыка расейскіх цароў ад іх пачатку аж да ўпадку ў 1917 г. была палітыкай яўнага нішчэньня беларускага народу, беларускай душы й культуры, была гэта палітыка з свайго боку простым натуральным наступствам зьнішчэньня Уніі, як веры сапраўды беларускай, была натуральным наступствам зрыву з Рымскім Прастолам.

(Літаратура: тая, што й у папярэднім разьдзеле, а так-жа: Ks. Ad. Stankievič — Rodnaja mova ŭ śviatyniach, Акты, изд. Виленскою Археограф. Комиссіею. т. XVI. Докум., относящ. к исторіи Церк. Уніи в Россіи. Вильна 1889).

---

## XI

## Адкуль узяліся Беларусы каталікі лацінынікі

*Беларусы лацінынікі на пачатку ў Беларусі Хрысьціянства. Беларусы лацінынікі ў беларуска-літоўскім пэрыядзе гісторыі Беларусі. Ягайла, Вітаўт і Беларусы лацінынікі. Рэфармацыя, Езуіты й Беларусы лацінынікі. Царкоўная Унія, расейская палітыка й Беларусы лацінынікі. Сучаснасьць і Беларусы лацінынікі.*

Дагэтуль, гаворачы аб значэньні для Беларускага народу Хрысьціянства, бралі мы пад увагу сьпярша Праваслаўе, а пасьля Унію. Пры гэтым мы ўсьцяж напатыкаліся й на лацінскае Каталіцтва, якое так-жа паявілася ў сваім часе ў Беларусі й якое так-жа мела дадатні й на'т выдатны ўплыў на беларускую нацыянальнасьць. Мы на яго аж цяпер зварачваем увагу затым, што яно ў параўнаньні з Праваслаўем і Уніяй менш у Беларусі пашырылася й што яно найбольш пашырылася іменна пазьней іх, а нават пасьля. Аднак-жа лацінскае Каталіцтва ў Бела-

русі, асабліва ў апошніх трох стагодзьдзях — XVIII, XIX і XX, — у значнай меры было так-жа творывам і падпорай беларускай нацыянальнасьці. Дзеля гэтага затрымаемся цяпер крыху даўжэй над лацінскім Каталіцтвам у нас, дасьледжваючы, адкуль і калі яно ў нас узялося.

Хрысьціяне лацінскага абраду паявіліся ў Беларусі дужа рана, яшчэ тады, калі Хрысьціянства было адзіным і непадзеленым, калі ў догматах яшчэ ня было ніякіх розьніцаў між усходам і захадам і калі розныя абрады — грэцкі, лацінскі й інш.—ня ўводзілі сярод хрысьціян ніякай духовай розьніцы. Праўда, усходнія славяне, а ў іх ліку й Беларусы, прымалі Хрысьціянства масава ў абрадзе грэка-славянскім, але яны гэта рабілі затым, што Візанцыя была бліжэй і што ад яе, прадусім, яны й запазычалі культуру, а не затым, што абрад лацінскі для іх быў нейкім горшым і няхрысьціянскім. Коратка гаворачы: нашы продкі прымалі Хрысьціянства ў усходнім абрадзе, бо ён, дзякуючы геопалітычным, гістарычным і культурным абставінам, быў для іх бліжэйшы.

Вось-жа ў Беларусі даўна прад тым, як масава пашыралася ўсходняе Хрысьціянства ў X ст., было ўжо й Хрысьціянства лацінскае. Ішло яно са Скандынавіі, ад Варага-Русаў, дзе яно тады ўжо пашыралася значна, ішло з Нямеччыны, Польшчы, і з самога Рыму, з якімі валадары украінскіх і беларускіх князьстваў

агулам часта падтрымлівалі зносіны. Лацінства аднак у масы сьпярша не пранікала. Лацінькі-камі хрысьціянамі былі сьпярша ў нас толькі чужынцы-купцы, місіянары, а з часам са сваіх які баярын, ваяка-дружыньнік і інш.

Значна больш было пашырыўшыся ў Беларусі лацінскае Хрысьціянства, ужо як Каталіцтва, пасьля падзелу яго, калі ўсход ад хрысьціянскага адзінства адыйшоў,—у XIII—XIV ст., за часаў Гедыміна й Альгерда. Але й цяпер так-жа яно было пашырана бадай выключна сярод вышэйшых слаёў народу, да самых народных масаў яшчэ аднак не даходзячы. Так напр. у XII—XIII ст. ужо былі каталіцкія лацінскія касьцёлы ў Кіеве, Пераяславе, Смаленску, Полацку, Ноўгарадзе. Былі так-жа ў XIV ст. манастыры францішканаў у Полацку, Наваградку й у інш. мясцох, былі так-жа манастыры ў нас у гэтым часе й дамініканаў.

Аб тым, што ў час Гедыміна былі ўжо Беларусы каталікі, ведаем з наступнага. Гэты-ж самы Вялікі Князь Гедымін летам 1323 г. зьвярнуўся да нямецкіх францішканаў саксонскае правінцыі з просьбай прыслаць у Вільню й Наваградак для абслугі манастырскіх касьцёлаў чатырох духоўнікаў, якія ўмелі-б гаварыць і пабеларуску, такіх, якія «цяпер ёсьць і даўней былі».

Далейшае пашыраньне сярод Беларусаў лацінскага Каталіцтва, ужо сярод беларускіх

народных масаў, адносіцца да часаў Ягайлы, калі ён хрысьціў Літву ў 1386 г. У гэтым часе, многія Беларусы, каб споўніць волю Вялікага Князя Ягайлы, пакідалі сваё Хрысьціянства ўсходняе (Праваслаўе) й пераходзілі ў лацінства.

Аб хрышчэньні Літвы Ягайла выдаў у лацінскай мове дакумант, так званы унівэрсал, у якім ён між іншым кажа: «каб прычыніцца да ўзросту каталіцкай веры ў Літве й Русі, пастанаўляем, загадваем, абяцаем, прыракаем і на сьвятыя сакраманты прысягаем: усе літоўскія народы, бяз розьніцы плоці й стану, што знаходзяцца ў Літве й Русі, да каталіцкай веры й да паслухмянасьці сьвятому Рымскаму Касьцёлу прывесьці, прыцягнуць, намовіць, ды больш таго — змусіць, калі-б да якой сэкты належылі». Далей, Вялікі Князь, каб новыя каталікі ня мелі перашкодаў у сваей веры, кажа: «выразна забараняем, каб ніхто з Літоўцаў абудвых плоцяў не жаніўся з Русінам так-жа абедзьвюх плоцяў прад тым, як выкажа сваю ўлегласьць Рымскаму Касьцёлу, а калі-б такое жанімства сталася, дык яго не разлучаць, але некаталіцкую старану да Каталіцтва, хоць-бы карай цялеснай, але давясьці трэба». Урэшце, у тым-жа унівэрсале Ягайла надае розныя прывілеі каталіцкім лацінскім касьцёлам, як у Вільні, так і па ўсім нашым краі. Гэткая воля Вялікага Князя значна прычынілася ў нашым краі да пашырэньня лацінскага Каталіцтва й сярод масаў Беларускага народу.

Гісторык Энэаш Сільвіюс, пазьнейшы папа Піус II, даведаўся, што Ягайла давёў да каталіцкай веры «розныя народы, галоўна народ Літоўскі й Рускі, першы ўвесь, а другога вялікую часьць, а гэта там, дзе той жыў сярод Літоўцаў, або ў суседзтве іх бліжэйшым, воддаль ад біскупстваў усходня-грэцкіх».

Кс. Я. Фіалэк кажа аб Ягайле, што ён «многа схізматыкаў прывёў да праўдзівае, якую й сам вызнаваў, веры». Гэта знача — праваслаўных Беларусаў прывёў да лацінскага Каталіцтва.

Значна так-жа пашыралася лацінства сярод Беларускага народу й за часаў Вітаўта Вялікага. Праўда, гэты мудры валадар асьцеражней з гэтым пАступаў, чымся Ягайла: ён у унівэрсале сваім, выданым так-жа ў справе хрышчэньня Літоўцаў і Русінаў, кажа: «калі які Русін захоча па сваей волі хрысьціцца, дык няхай сабе хрысьціцца, а які ня хоча, няхай астаецца ў сваей веры». З гэтага відаць, што ён мякчэй адносіўся да Беларусаў праваслаўных і быў больш толеранцыйны, як Ягайла, але прынцыпова й ён тую-ж самую праводзіў палітыку, бо-ж і ён быў рашучым заходнікам і лацíньнікам. Ён дужа многа фундаваў касьцёлаў і манастыроў сярод беларускага насельніцтва, што, зразумела, прычынялася да далейшага пашыраньня ў нас лацінства, ды й сам факт фундаваньня лацінскіх касьцёлаў і манастыроў ужо дапускае сваім парадкам існаваньне лаціньні-

каў і іх рэлігійныя патрэбы. Каталіцкі лацінскі касьцёл за часаў Ягайлы й Вітаўта ўжо меў многа вызнавальнікаў ня толькі сярод вышэйшых слаёў-баяраў і магнатаў, але так-жа й сярод народных беларускіх масаў.

Наварот Беларусаў на лацінскае Каталіцтва адбываецца праз усё XV, XVI ст. і далей. У 1501 г. папа Аляксандар VI у бульлі да віленскага біскупа дае спосаб прынятку Беларусаў праваслаўных да Каталіцтва. Справа была ў тым, што у лаціньнікаў была нават думка аб няважнасьці праваслаўнага хросту й аб патрэбе хрышчэньня нанава праваслаўных, прыймаючы іх да Каталіцтва. Вось-жа на гэта папа ў гэнай бульлі між іншым рашуча забараняе аднаўленьне хрышчэньня людзей праваслаўнае веры, якія хочуць злучыцца з каталіцкім касьцёлам.

Палітыка навароту праваслаўных Беларусаў на лацінскае Каталіцтва яўна так-жа відаць і з актаў Городэльскай уніі ў 1413 г. Ягайла й Вітаўт, закрапіўшы Унію літоўскіх, беларускіх і украінскіх зямель з Польшчай, пастанавілі, што ...«толькі тыя, якія належаць да каталіцкага касьцёла й якія прынялі польскія гэрбы князі й баяры Вял. Кн. Літ. маюць права карыстацца рознымі прывілеямі, якія існуюць у Польшчы, а так-жа займаць высокія пасады й атрымліваць розныя годнасьці могуць толькі тыя, якія паходзяць з родаў, прыняўшых лацін-

скую веру; так-жа сама ў дзяржаўную раду могуць быць дапушчаны толькі вызнавальнікі лацінства, а ніколі схізматыкі й іншыя нявер-ныя». Ясна, што гэтакі закон адносна «схізма-тыкаў» (праваслаўных Беларусаў) дужа спрыяў пашырэньню лацінства ўжо ня толькі сярод народных беларускіх масаў, але, як бачым, прадусім сярод высокіх слаёў народу. Ведаем, што дзеля гэткіх законаў многія беларускія праваслаўныя князі й баяры пераходзілі ў ла-цінства, каб скарыстаць з розных грамадзкіх і дзяржаўных прывілеяў.

У пач. XVI ст. у нашым краю паявілася вызнаньне, так званае эванэліцкае, а прадусім кальвінства й адчасьці соцыянства. Вось-жа многія беларускія вышэйшыя слаі пакідалі Пра-васлаўе й пераходзілі ў Кальвінства, а пасьля, калі Кальвінства перастала шырыцца й быць модным, пераходзілі ў лацінства каталіцкае.

Узноў-жа далейшым дзейнікам, пашыраю-чым ў нас лацінства, былі езуіты, якія ў нашым краю паявіліся ў XVI ст. дзеля барацьбы з рэ-фармацыяй. Езуіты, боручыся з Кальвінізмам, які масава пашыраўся ў нас сярод паноў, часта наварочвалі ў лацінства ня толькі паноў, але так-жа й народныя масы, цалком ад гэтых апошніх залежныя. Пад уплывам дзейнасьці езуітаў зда-раліся выпадкі, што й праваслаўныя ўсходнія беларускія паны прымалі лацінскае каталіцтва.

Калі-ж у 1596 г. наступіла царкоўная Унія,

якая трывала 243 г., перацягваньне Беларусаў уніятаў у лацінства ящчэ больш пашырылася й прысьпяшылася. Так напр. уніяцкі мітрапаліт Вэлямін Рутскі ў 1623 г. інфармуе Рым аб тым, што уніятам з боку лацініьнікаў робяцца крыўды й што іх перацягваюць у лацінства. На гэта ў 1624 г. папа Урбан VIII выдаў бульлю, у якой забараняе пераход у лацінства. Палякі гэтаму спрацівіліся. Тады гэна бульля была агранічана толькі да духавенства. Так хацеў кароль Сігізмунт III. Адносіны праўныя, грамадзкія й таварыскія з боку польскага да Беларусаў уніятаў былі благія й нават несправядлівыя. Вось-жа нічога дзіўнага, што яны нават гэтым самым былі прымушаны пакідаць свой усходні абрад і пераходзіць у лацінства.

У 1623 г. праваслаўная шляхта Вялікага Кн. Літоўскага падала Сэнату Рэчыпаспалітай скаргу, так званую «супліку», у якой між іншым чытаем: ...«Вольнасьці народу рускаму належацца дваякія: таму народу рускаму, які ёсьць веры рымскае, паслушнасьці заходняе й таму народу рускаму, які ёсьць веры грэцкае, паслушнасьці ўсходняе. Русь рымскае веры пры сваей вольнасьці астаецца, а нам Русі веры грэцкае, вольнасьць выдзерта»...

З гэтага дакуманту бачым, што ня толькі было шмат Беларусаў лаціньнікаў, але й як беларуская шляхта, якая тады прадстаўляла народ, адносілася да іх. Вось-жа бачым, што та-

гочасныя праваслаўныя Беларусы Беларусаў каталікоў лічылі Беларусамі, такімі самымі, як і яны праваслаўныя.

Націск лацінізму й полёнізму на Беларусаў уніятаў урэшце да таго ўзрос, што ў 1717 г. у польскім грамадзянстве паўстаў праект і уніятаў і праваслаўных Беларусаў аканчальна перавесьці ў лацінства.

Асабліва многа пераходзіла Беларусаў з Уніі ў лацінства пасьля падзелу Польшчы, калі Беларусы апынуліся пад панаваньнем расейскіх цароў і калі з боку расейскіх уладаў ішоў выразны й часта грубы націск на уніятаў з мэтай пераводжаньня іх на Праваслаўе. І так дзеля гэтых прычын за часаў царыцы Кацярыны II (1796 г.) многія Беларусы уніяты, жадаючыя захаваць веру сваіх бацькоў, пакідалі Унію й далучыліся да касьцёла лацінскага, адлучыць якіх ад каторага расейскім уладам было значна трудней, як ад Уніі. Тое-ж самае было й за часаў цара Паўла, як сьведча аб гэтым уніяцкі полацкі архіепіскап Іраклі Лісоўскі.

Гэткія-ж узноў адносіны расейскай царскай палітыкі да уніятаў са свайго боку правакавалі й заахвочвалі Палякоў цягнуць да сябе ў лацінства рэшту уніятаў, якія аставаліся ўніятамі й далей трымаліся веры сваіх бацькоў. І ў гэтым часе цэлыя масы уніятаў пераходзілі ў лацінства, бо—з прычыны паншчыны,—яны былі цалком залежныя ад польскіх паноў і ад ксяндзоў.

Расейскія палітыкі спасьцерагліся і, жадаючы да сябе прыгарнуць Беларусаў уніятаў, стараліся пераходу іх у лацінства проціўставіцца. Так напр. у 1796, 1797 і 1799 г. былі выданы царскія ўказы, забараняючыя пераходзіць з уніі ў лацінства. Але нічога гэта не памагала й Палякі уніятаў Беларусаў цэлымі масамі пераводзілі далей у лацінства. У 1806 г. быў такжа выданы царскі указ, каб тыя ўсе цэрквы й прыходы, якія з уніі перайшлі ў лацінства, узноў вярнуць у унію. Адбываліся доўгалетнія вялікія судовыя працэсы й нічога з гэтага ня выходзіла: ня толькі што не варочаліся быўшыя ўніяты ў унію, але далей у лацінства пераходзілі цэлыя прыходы з усіх беларускіх губэрняў. Так напр. у 1809 г. у ваднэй толькі Віленскай губэрні з уніі ў лацінства перайшло да 20 тысяч Беларусаў.

Нямала так-жа, а можа найбольш як калі, уцякала Беларусаў уніятаў у лацінства ў 1839 г., калі вышэйшае ўніяцкае духавенства, здрадзіўшы Унію, ня пытаючыся верных, часта пры помачы паліцыі, перапісвала іх у Праваслаўе. Ня хочачы быць сілай запісанымі ў Праваслаўе, яны масава ўцякалі ў лацінскае Каталіцтва.

Урэшце за часаў першых у нашым краю расейскіх генерал-губэрнатараў, жывучых у Вільні, асабліва-ж ведамага з сваей жорсткасьці М. Н. Мураўёва, цэлыя масы быўшых уніятаў з Праваслаўя ўцякалі ў лацінства. Да гэтага часу ад-

носяцца слаўныя словы праваслаўнага віленскага архіепіскапа Макарага, сказаныя Мураўёву на яго раду архіепіскапу знайсьці спосабы ўтрымаць пераход Беларусаў праваслаўных у каталіцтва: «Дзеля таго, што чыноўнікі іх наварачвалі на Праваслаўе, дык няхай-жа яны знайдуць спосабы й утрымаць іх пры Праваслаўі» — казаў гэны духоўнік.

Спрыяла далейшаму пашыраньню ў нас лацінства й далейшая расейская палітыка. Расейскі ўрад на працягу першай палавіны, калі ня больш, XIX ст. усіх каталікоў у нашым краю ўважаў за Палякоў, Каталіцкі Касьцёл з усімі яго вернымі называў «іноверчаскім і інародным». Зразумелая рэч, што гэткая палітыка яшчэ больш спрыяла ўтрываленьню ня толькі Каталіцтва, як такога, але Каталіцтва ўжо польскага й адгароджаньню яго ад беларускай стыхіі.

Калі-ж урэшце ў другой палавіне XIX ст., асабліва пасьля польскага паўстаньня ў 1863 г., Расейцы дадумаліся, што ў Каталіцкім Касьцеле ёсьць многа Беларусаў і калі зажадалі зрабіць з іх «чыстых рускіх», у грамадзкай іх думцы паўстала вялікая спрэчка аб тым, ці даць супакой гэным Беларусам пазволіць ім далей карыстацца мовай польскай у касьцеле й даць ім магчымасьць спакойна польшчыцца, ці—наадварот — узяць іх пад высокую расейскую апеку й Беларусам, як рускім, даць мову расейскую. Урэшце перамагла гэтая апошняя думка

й у 1869 г. наступіў «высочайшы дазвол» карыстацца ў касьцеле расейскай мовай. Зразумелая рэч, што царскі «дазвол» раўняўся загаду. Гэтак яго й зразумелі: урад, чыноўнікі, паліцыя, праваслаўнае духавенства. Ад гэтага «дазволу» аж да 1905 г. распачалася самая гарачая, часта сусім дзікая, барацьба ўраду ў кірунку ўвядзеньня ў касьцёлы ў дадаткавае набажэнства мовы расейскай замест польскай. І гэткая палітыка ўцьвярджала Беларусаў у лацінстве й Беларусаў каталікоў рашуча адгараджвала ад Беларусаў праваслаўных, творачы ўжо нават недарэчнае паняцьце „польскай” і„рускай“веры.

Урэшце, калі наступіла сякая-такая свабода сумленьня ў 1905 г., многія масава з Праваслаўя пераходзілі ў лацінскае Каталіцтва. Былі гэта тыя Беларусы быўшыя уніяты, якім дзеля тых ці іншых прычын раней перайсьці ў Каталіцтва не ўдалося. І цяпер пераход гэты быў значны, масавы. Быўшым уніятам Беларусам імпанавала лацінскае Каталіцтва й тым, што было ўціснанае й што гэта была вера іх дзядоў. У 1908 г. напр. у ваднэй толькі Магілёўскай губэрні Беларусаў каталікоў было 59 тысяч.

Вось гэткім чынам паявіліся ў Беларусі Беларусы каталікі лаціньнікі. Гэта, як бачым, тыя-ж Беларусы, продкі якіх належалі да абраду ўсходняга: сьпярша усходня-каталіцкага, а пасьля праваслаўнага.

Сяньня так-жа паволі павялічваецца лік

Беларусаў каталікоў, бо й сяньня многія Беларусы праваслаўныя дзеля розных прычы, пераважна асабістага характару, пакідаюць Праваслаўе й пераходзяць у лацінскае Каталіцтва. Здараецца гэта пры жанімствах, пры шуканьні дзяржаўнай пасады й інш. жыцьцёвых абставінах.

Сяньня Беларусаў каталікоў на беларускіх землях Рэчыпаспалітай Польскай ёсьць больш мільёна, а на ўсім сьвеце: СССР, Латвія, Літва, Сібір, Злуч. Ст. Амэрыкі — будзе яшчэ мільён. Усіх Беларусаў каталікоў, і на землях беларускіх і на эміграцыі, сяньня будзе мільёны два.

Усе Беларусы, як праваслаўныя, так і каталікі, — гэта, як бачым, адзін суцэльны Беларускі народ, да якога 950 гадоў таму з усходу ў грэка-славянскім абрадзе заглянула сьвятло Праўды Хрыстовай.

(Літаратура: **Документы**, **об'ясняющіе исторію Западно-Русскаго Края**. СПБ, 1865; **Документы**, относящіеся к исторіи церковной Уніи в Россіи. Т. XVI: (Акты Изд. Виленск. Археогр. Ком. Вильна, 1889); **Ks. J. Kurczewski** — Kościół Zamkowy II, Wilno, 1910; **Иван Беляев** — **Исторія Полотска**. **Москва**, 1872; **Prof. Dr. Wł. Abraham** — Polska, a Chrzest Litwy (Polska i Litwa w dziejowym stosunku); **Ks. Dr. J. Fiałek** — Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę (Polska i Litwa w dziejowym stosunku); **Ks. Ad. Stankievič** — Rodnaja mova ŭ śviatyniach. Vilnia, 1929.)

---

## XII

## Лацінскае Каталіцтва—апора беларускай нацыянальнасьці ў XIX ст., асабліва пасьля ліквідацыі Уніі

*Роль адносна народнага беларускага языка языкоў царкоўна-славянскага й лацінскага. Беларусы лацінькікі часткова стала карысталіся беларускай мовай.—Беларуская мова ў касьцельным жыцьці ад пачатку да XVIII ст. уключна. — Беларуская мова ў Касьцелеў XIX ст. - Хрысьціянства й пачаткі беларускага нацыянальнага адраджэньня.*

І так, як бачылі мы ў папярэднім разьдзеле, лацінскае Каталіцтва, пранікаючы ў Беларусь павольна, дайшло ўрэшце да значных разьмераў і адыграла цалком пазытыўную роль у тварэньні й падтрымліваньні беларускай нацыянальнасьці, асабліва ў часе панаваньня над Беларусяй расейскіх цароў. Можна нават сказаць, што гэтая роль лацінскага ў Беларусі Хрысьціянства, у граніцах пэўне-ж сваіх сіл і разьмераў, была ў некаторым значэньні больш выразнай і рашучай, як Праваслаўе, а нават

і як Унія. Справа вось у чым: мова стара-баўгарская, якая пазьней, дзеля свайго чыста рэлігійнага служэньня, стала называцца царкоўна-славянскай, у якой у Беларусі сьпярша бадай выключна пашыралася Хрысьціянства, была ў некаторым значэньні на перашкодзе жывой народнай беларускай мове. І гэта сусім зразумела й натуральна: гэная мова сьпярша дужа мала розьнілася ад мовы Беларускага народу на зары яго гістарычнага жыцьця. Узноў-жа пазьней, калі жывая народная беларуская мова разьвілася больш, а мова стара-баўгарская сталася мовай няжывой, мовай толькі рэлігійнага культу, то й тады й аж да апошняга часу ня сталася цалком незразумелай, яе й сяньня Беларус у Службе Божай крыху разумее. І вось-жа гэта разуменьне гэнай старой і чужой мовы бязумоўна шкодна адбівалася на мове народнай. Беларус прывыкаў у жыцьці царкоўным абходзіцца без сваей народнай мовы й гэтым бязумоўна нясьведама прычыняўся да стрыманьня яе разьвіцьця.

Сусім што іншае спатыкаем у Беларусаў лацíньнікаў: яны, не разумеючы нічога ў лацінскай літургіі, мусілі мець нейкае яе тлумачэньне ў народнай мове, а так-жа ў гэтай мове й усякае дадатковае набажэнства. Нават і казаньні да Беларусаў лаціньнікаў мусілі гаварыцца ў народнай мове, бо-ж лацінскіх тэкстаў яны разумець не маглі, тагды як пропаведзі

Беларусам праваслаўным і уніятам звычайна перасыпаліся старой баўгаршчынай, што нават дзеецца й сяньня.

І сяньня Беларусы каталі лаціньнікі ў сваіх рэлігійных друках чысьцейшай беларускай народнай мовы ўжываюць, як праваслаўныя й нават як уніяты. Аб'ясьняецца гэта тым, што лаціньнікі да свайго языка нічога ня могуць дамяшаць (можа толькі крыху полёнізмаў, як нешта неабходнае й патрэбнае толькі часова), а праваслаўныя ніяк ня могуць абараніцца ад стара-славянскага й часта дужа да яго зьбліжанага языка расейскага.

Вось-жа гэткі характар лацінізму сярод Беларускага народу спрыяў цалком пазытыўна разьвіцьцю беларускай нацыянальнасьці й часта быў моцнай яе апорай. Апрача-ж гэтага лацінскае Хрысьціянства ў Беларусі было часта апорай беларускай нацыянальнасьці, дзякуючы так-жа сваей арганізацыйнай структуры: кананічная залежнасьць ад Апостальскай Сталіцы, у сутнасьці наднацыянальнай і нязьвязанай нацыянальна з ніякай дзяржавай, чаго ніяк ня можна сказаць аб Праваслаўі, доказам чаго царскае паняволеньне цэрквы, а апошнім часам спробы стварэньня польскага Праваслаўя.

Але пачнём з пачатку. Беларусы лаціньнікі, у большай ці меншай меры, але заўсёды ўжывалі ў сваім рэлігійным жыцьці апрача лі-

тургічнай лаціны так-жа й сваей народнай мовы. Гэтак было за часаў літоўскай дынастыі, гэтак і пазьней—аж да канца ст. XVII, калі беларускі язык у Вялікім Князьстве Літоўскім перастаў быць урадавым і сьпярша (1697 г.) фармальна, а пасьля й фактычна быў заменены польскім, хоць так-жа, як убачым далей, не цалком і ня ўсюды.

На пачатку беларуска-літоўскага пэрыяду гісторыі, калі ўжо Каталіцтва лацінскае ў Беларусі паяўлялася масава, была ў ужыцьці й беларуская мова. У XV ст. ужо была нават і беларуская каталіцкая літаратура.

Успомнім хоць найбольш ведамую, як: аб Муцы Хрыстовай, Повесьць аб трох каралёх, Плач Маткі па Сыне, Аб ускрашэньні Хрыстовым, Бяседы Грыгора папы рымскага, Імша ў чэсьць Маці Божай з тлумачэньнем. Кніжкі гэтыя пісаны рукой, славянскімі літарамі. Мова іх жывая, абразовая й чыста беларуская.

У кнізе: „Materjały do dziejów Akademji Połockiej i szkół od niej zależnych“ спатыкаем вестку, што адзін з Полацкіх езуітаў у другой палавіне XVI сталецьця, айцец І. Алянд, навучыўшыся мовы беларускай, гаварыў у гэтай мове народу казаньні й катэхізаваў яго.

Гісторыкі школ у нашым краі Лукашэвіч і Харламповіч, апіраючыся на штогодных справаздачах езуітаў аб іх установах („Litterae annuae“ з XVI—XVII ст.) у сваіх працах цьвердзяць,

што ў езуіцкіх школах вучылі мовы народнай, што ў гэтай мове пялі рэлігійныя гымны й што сярод беларускага народу па касьцёлах карысталіся мовай беларускай.

У Віленскай Езуіцкай Акадэміі, як відаць з апісаньня 1645 г. езуітам у Вільні жыцьця й сьмерці сьв. Ёзафата, вучылі мовы беларускай.

Існавалі ўжо катэхізмоўкі, як падручнікі для навучаньня каталіцкай рэлігіі пабеларуску. І так у 1585 г. у Вільні быў выданы катэхізм, пераложаны з лацінскай на беларускую мову. Езуіт Поссэвін, які ў Беларусі й у Расеі працаваў над спалучэньнем Праваслаўя з Каталіцкім Касьцёлам, у 1587 г. пісаў да Папежа, што абавязкава трэба ператлумачыць рэлігійныя кнігі на родную мову народу, аб выданьні каторых ён сам будзе старацца ў Вільні. Вось-жа, відаць, успомнены катэхізм і быў надрукаваны, як вынік захадаў Поссэвіна й празначаны як для абслугі Беларусаў каталікоў, так і для пашырэньня Каталіцтва сярод праваслаўных. Катэхізм гэты пісаны кірыліцай.

У XVI ст., з невялікімі выняткамі, блізу ўсе вышэйшыя пасады ў каталіцкім (лацінскім) Касьцеле ў нашым краі (у Віленскай дыэцэзіі) пераважна займалі Беларусы й Літоўцы. Ад пачатку існаваньня ў нас Касьцёла аж да XVII ст. усіх каталіцкіх біскупаў у Вільні было 18 чалавек; з іх: першы, трэці й чацьверты — Палякі, а рэшта Літоўцы й Беларусы.

У канцы XVI ст. Віленская Капітула (Біскупская рада) спрацівілася каралю й Папежу з прычыны назначэньня на Віленскага біскупа Паляка Б. Мацееўскага. Справа цягнулася ад 1591 да 1600 г. У 1600 г. назначаны быў краёвец Война. Гавораць аб гэтым акты Віленскай Капітулы. З тых-жа актаў відаць, што на Сойме ў Вільні 1597 г. паслы нашага краю (Літоўцы й Беларусы) баранілі права мець біскупам у Вільні чалавека сваей народнасьці.

Праз XVI і пач. XVII ст. каталіцкае лацінскае духавенства ў Беларусі ў урадавай і прыватнай перапісцы карысталася мовай беларускай.

Каралеўскі прывілей, у 1567 г. дадзены Віленскай Капітуле, напісаны пабеларуску.

Ад канца XVII ст. (1697), асабліва-ж у ст. XVIII, мова беларуская ў жыцьці рэлігійным лацінькаў (уніятаў) усьцяж агранічваецца, усьцяж спыняецца на карысьць мовы чужой народу польскай, але цалком з сьвятыняў ня выводзіцца й астаецца там надалей.

У 1682 г. Віленскі біскуп Ст. Пац загадаў у нядзелі й сьвяты выясьняць Эванэлію, або выкладаць катэхізм „па просту". А лёгка дадумацца, што вучыць папросту — гэта знача пабеларуску й палітоўску.

У 1742 г. папеж Бэнэдыкт XIV бульляй „Etsi Minime" загадаў духавенству зьвярнуць асаблівую ўвагу на навучаньне народу праўдаў сьв. веры. У зьвязку з гэтым загадам Віленскі біс-

куп Зенковіч склікаў дыэцэзальны Сынод, які адбыўся ў Віленскай Катэдры 10.II і 12.II. Сынод між іншым пастанавіў гаварыць да народу навукі паводле старога звычаю ў народнай мове.

З другой палавіны XVIII ст. дайшлі да нас так-жа беларускія рэлігійныя паасобныя песьні, як «О, мой Божа, веру Табе», а так-жа зборнік такіх песьняў пад загалоўкам: „Kantyčka, abo nabožne pieśni w narzeczu połockim“ (Połock, w drukarni Soc. Jezu, 1774 г.), уложаная, як відаць, і выданая полацкімі Езуітамі.

У канцы XVIII ст., ужо пасьля падзелаў Польшчы (1772, 1793, 1795), калі Беларусь адыйшла да Расеі, у 1794 г. Магілёўскі лацінскі арцыбіскуп Богуш-Сестранцэвіч выдаў да падуладнага сабе духавенства ліст, у якім кажа: „Wszystkim w Archidyecezji plebanom zalecić i zaleca się, aby ludowitym językiem, jaki on rozumie, po skończonym nabożeństwie z ambon po kościołach kazania miewali“.

Такім чынам, як бачым, ад пачатку ў Беларусі Хрысьціянства, то ў большай меры, то ў меншай, аж да канца XVII веку, беларуская мова ў каталіцкіх сьвятынях лацінскіх ужывалася даволі шырока. Ужывалася яна так-жа, як трэба судзіць з загадаў тагочаснай духоўнай улады, у тых-жа сьвятынях лацінскіх праз увесь XVIII век, хоць ужо ў агранічанай меры.

Век-жа XIX агулам для мовы беларускай у сьвятынях — асабліўшы. У ім вялася заяд-

лая барацьба палітыкі польскай і расейскай за ўплывы на беларускую мову, беларускую душу й культуру.

Галоўнай аднак апорай беларускай народнасьці ў XIX ст. была Унія, бо да яе належыла вялізарная большасьць народу, а да лацінства толькі частка. Беларускі народ такім чынам згуртаваўся каля уніяцкай цэркві, як каля сваей галоўнай і адзінай духова-нацыянальнай апоры. І не памыліўся. Яна гэткай для яго была сапраўды. Відаць гэта дужа выразна падчас касаваньня Уніі ў 1839 г. Касаваньне яе было такой, як і заводжаньне: — рабілася гэта прымусам, сілай, нават часта звычайным гвалтам. За 243 гады існаваньня ў Беларусі Уніі — Унія гэта сталася сапраўды беларускай нацыянальнай цэрквай, верай бацькоў, мужыцкай, сялянскай верай. Народ з ёй зжыўся. І так, як яму балела, калі ад яго забіралі Праваслаўе, так цяпер няменш балела, калі гвалтам забіралі ягоную уніяцкую, «рускую» веру.

Урэшце сталася. Хрысьціянства ў Беларусі й усходняе (Праваслаўе) й заходняе (Каталіцтва) ў XIX ст., не гаворачы аб ранейшым часе, ужо было звычайным прыладзьдзем польскасьці й расейскасьці. Аднак, як ня дзіўна, знайшлася частка Хрысьціянства, якая рабіла далей тую-ж самую работу адносна беларускай нацыянальнасьці, што й даўней,—была сродкам, хоць слабым, няпрыкметным і кволым, але

сродкам спалучэньня й тварэньня беларускай нацыянальнасьці. Праваслаўе гэтым ня было. У той час гэтым яно й быць не магло. Яно было цалком падпарадкавана царызму й расейскаму нацыяналізму й імпэрыялізму. Уніі нястала, яна была сілай зьмецена з паверхні зямлі. Гэтым «цудоўным» сродкам — часткова й нязначна — было лацінскае Каталіцтва, наколькі яно вырывалася з абоймаў польскага нацыяналізму. А вырывацца з гэных абоймаў яно пакрысе магло, бо цэнтрам яго не пераставаў быць Рым, Апостальская Сталіца, як пункт наднацыянальны, як пункт, якога цалком паканаць і абняць няздольны ніякі мясцовы нацыяналізм. Вось-жа гэная наднацыянальнасьць Каталіцтва агулам давала беларускай нацыянальнасьці сякую-такую змогу быць хоць слабенькай апорай насупроць польскасьці. Ані няспрыяючыя варункі гістарычныя, ані спрыт польскае палітыкі, ані магутнасьць расейскай імпэрыі ня здушылі цалком і не замарылі на сьмерць нашай мовы. Зьбярог яе ў грудзях сваіх народ наш і, колькі мог памагчы ў той час, памог захаваць яе Касьцёл Каталіцкі. Ён, будучы вольны ў сваей арганізацыі, маючы свой цэнтр на скале Пятровай у Рыме, незалежны ад усякай сьвецкай палітыкі, з вышыні Апостальскай Сталіцы, з міласьцяй маткі, апякуецца кожным народам, кожнай душой чалавека й яго патрэбай духовай. Дык вось, у Касьцеле Каталіцкім мова

наша, хоць у дужа малой меры, дзеля цяжкіх варункаў палітычна-грамадзкіх, аднак мела сабе яшчэ месца.

1825 год папеж Лявон XII аб'есьціў, як год юбілейны. На нашых землях юбілей гэты быў сьвяткаваны ў наступным 1826 г. Галоўным кіраўнікам юбілею ў Беларусі быў домініканін Корнэлі Рапчынскі, які ўмеў пабеларуску. Юбілей гэты адпраўлялі разам лацініьнікі й існуючыя яшчэ ўніяты. Аб працах юбілейных агулам і аб мове, у якой гаварылі казаньні, усё было запісана ў асобны дзеньнік (Д'яр'юш), які вёў той-жа кс. Рапчынскі. У Беларусі юбілей зачаўся ад Полацку 28 лютага й трываў праз цэлы сакавік. Вось-жа ў Полацку ў касьцеле францішканскім падчас гэтага юбілею казаньні былі гавораны пабеларуску. Народу бывала гэтулькі, што, як піша кс. Рапчынскі, касьцёл не зьмяшчаў іх.

На правінцыі падчас гэтага юбілейнага году былі так-жа беларускія казаньні й пабеларуску рахунак сумленьня ў наступных сёлах і местах Беларусі, асабліва Віцебшчыны: у Гарбачэве, у Клясіцах, у Ушачы (былі пабеларуску навукі, рахунак сумленьня, а так-жа чыталі катэхізм пабеларуску), у Забяле, у Томасіне, у Халапенічах, Мікалаеве, у Таболках.

У Альбрыхтове ў касьцеле, як піша той-жа Д'яр'юш, па ражанцы, канторка, умеючая чы-

тацьь, на палавіну сьпяваючы, гаварыла з народам катэхізм пабеларуску, які ўсе добра ўмелі.

У 1835 г. у Вільні выходзе „Krótkie zebranie nauki chrześcjańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego“ з апрабатай віленскага каталіцкага (лацінскага) біскупа І. Б. Клонгевіча й з дазволу сьвецкай улады. Катехізмоўка гэта, ня гледзячы на яе польскі загаловак і на некалькі польскіх малітваў і на ўспамін аб нейкай польска-рускай мове, на бачынах 24-ох напісана даволі чыстай віленска-менскай беларускай мовай.

У 1845 г. у тэй-жа Вільні ўзноў выйшаў „Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do źwierzchności krajowej. Za Najwyższym rozkazem, dla użycia po szkołach i kościołach Rzymsko-Katolickich wiejskich wydrukowany. Nakład i druk T. Glusberga księgarza i typografa szkół białorusk. nauk. okr.“ Частка гэтага катэхізму напісана пабеларуску. Бачыць яго нам не ўдалося. Судзячы з загалоўку (даволі дзіўнага) і з выдаўца, належа думаць, што друк гэты выданы ўрадам, або блізкімі да яго людзьмі. Аднак аб патрэбе нашай мовы ў жыцьці рэлігійным і аб ужывальнасьці яе ў гэтым жыцьці, прынамсі ў пэўнай меры, і ён гавора.

У 1862 г. выйшаў „Elementarz dla dobrych dzietok katolikoŭ“, друкаваны ў Варшаве, з апрабатай духоўнай і з дазволам сьвецкай улады. Усе

40 старонак друкаваны пабеларуску. Апрача кароценькага лемантара, зьмешчаны ў ім каталіцкі катэхізм, пацеры, некалькі малітваў, песьня „O moj Boža, vieru Tabie“ і ў канцы „tablička množenia“. Мова беларуская даволі чыстая, дужа падобная да мовы ў катэхізмоўцы з 1835 г., а магчыма, што тая самая.

Помнячы, што ў гэтым часе беларускіх кніжак лацінкай друкаваць ня можна было, можна дагадацца, што духоўныя ўлады прапхнулі гэты „Elementarz“ праз расейскую сьвецкую цэнзуру, як польскі, друкуючы яго лацінкай.

З успомненых друкаў агулам бачым, што ў тым часе адчувалася патрэба вучыць праўдаў веры каталікоў Беларусаў у іх роднай мове. Дзеля гэтай-жа мэты й былі друкаваны гэныя катэхізмы.

У 1866 г. у часапісе «Вѣстник Зап. Россіи» К. Говорскі піша, што з беларускай літаратуры яму ведамы катэхізм, навукі парафіяльныя ды пяць - шэсьць песьняў рэлігійнага зьместу. Пэўне-ж, гутарка тут аб беларускай літаратуры каталіцкай, бо праваслаўнай падобнай пабеларуску цалком не дапускалася.

У 1866 г., калі ўрад расейскі ўжо рабіў спробу ўвядзеньня ў касьцёлы расейскай мовы, група ксяндзоў Беларусаў з Магілёўшчыны й Віцебшчыны зьвярнулася з просьбай да ўраду аб дазвол ператлумачыць ім агульна ўжываныя казаньні Філіпэцкага й Белабрэскага на

беларускую мову. Тагочасны генэрал-губэрнатар нашага краю К. П. фон Кауфман (1865-66) уважаў, што казаньні трэба гаварыць у касьцёлах не пабеларуску, а парасейску. Обэр-пракурор Сыноду гр. Д. А. Толстой зьвярнуўся ў гэтай справе з запытаньнем да праваслаўных біскупаў літоўска-беларускага краю. Сынод просьбу гэных ксяндзоў адкінуў. Цікавыя адказы біскупаў праваслаўных Д. А. Толстой пераслаў генэрал-губэрнатару. Найцікавейшы адказ быў русыфікатара Міхала, біскупа Менскага й Бабруйскага. Ён быў праціўнікам беларускай мовы ў касьцеле дзеля таго, што, як пісаў, за часоў паншчыны ў мову беларускую закралася многа слоў і выражэньняў польскіх, дык хто заруча, што ксяндзы будуць гаварыць пабеларуску, а пакрысе будуць адначасна падтрымліваць мову польскую ў касьцеле... «Маю гістарычную падставу — пісаў ён далей, — адносіцца з падазрэньнем да просьбы лацінскіх ксяндзоў перталумачыць на мову беларускую казаньні. Езуіты, асеўшы ў гэтым краі, сьпярша вучыліся мовы народнай і з ёй зводзілі праваслаўных...»

Цікава так-жа адзначыць, што ў гэтым-жа 1866 г. успомненыя вышэй каталіцкія ксяндзы з Магілёўшчыны й Віцебшчыны, якія прасілі ўладу пазволіць ім тлумачыць на беларускую мову казаньні польскія, просьбу сваю між іншым падтрымліваюць тым, што ў іх часе ў на-

шым краі многа дзе казаньні па касьцёлах ксяндзы гаварылі пабеларуску.

Не адрэчы тут будзе так-жа ўспомніць і аб Санчыкоўскім. Быў гэта каталіцкі (лацінскі) ксёндз у Меншчыне, з паходжаньня Беларус, які забыўшыся аб сваім ксяндзоўстве й аб сваім народзе, надта сардэчна дапамагаў і дараджаў на працягу пару дзесяткаў гадоў (1860 — 1880) царскаму ўраду ў справе замены ў касьцеле мовы польскай мовай расейскай. Аднак з працы Жыркевіча «Из-за русскага языка» выглядае, што Санчыкоўскі сам сябе лічыў Беларусам, з народам гаварыў пабеларуску, а такжа часта пабеларуску гаварыў казаньні ў касьцеле.

Быў гэта ў значнай меры кар'ерыст і заблудзіўшы самалюб, які калі і ўспамінаў аб патрэбе ў жыцьці касьцельным мовы беларускай і калі й сам гэтай мовай гаварыў, дык, судзячы з яго супрацоўніцтва з урадам, была гэта толькі тактыка, часовы русыфікатарскі манэўр, які нядвузначна імкнуўся да ўвядзеньня ў жыцьцё рэлігійнае каталікоў Беларусаў мовы не беларускай, а расейскай.

Санчыкоўскі — паслушнае аружжа русыфікацыі Беларусі ў руках расейскага ўраду. Дапамагалі яму стаць на гэту дарогу тагочасныя палітычна-грамадзкія варункі на Беларусі. У значнай меры Санчыкоўскі — дзіця трагедыі свайго часу.

Аднак, ня гледзячы на схаваныя пляны ў працы Санчыкоўскага што да мовы ў касьцеле, няма падстаў ня верыць яму, што як ён сам, так і многія іншыя ксяндзы ў ліку 46, як ён кажа, у ваднэй толькі Менскай дыэцэзіі, сапраўды шмат дзе карысталіся ў казаньнях да каталікоў Беларусаў мовай беларускай. Трэба такжа думаць, што вышэйшая духоўная ўлада, калі сапраўды бачыла ўжываньне тады ў касьцёлах мовы беларускай, мовы роднай народу, а не расейскай, гэтаму прынамсі афіцыяльна не працівілася, як не працівіўся гэтаму, а нават радзіў, Магілёўскі Арцыбіскуп Сымон.

Тым больш праўдападобныя цьверджаньні аб мове беларускай у касьцеле Санчыкоўскага, бо і ў архіве канцэлярыі Віленскага Генэрал-Губэрнатарства (1867—70) ёсьць сьпісы ксяндзоў, гаворачых па касьцёлах беларускія казаньні.

Але найлепшымі гэтага довадамі служаць дакумэнты. Затрымаемся тут над імі бліжэй. Кс. праф. Ал. Навіцкі (Латвія) ў сваім часе перадаў Бел. Каталіцкаму Выдавецтву ў Вільні рукапісныя беларускія каталіцкія казаньні.

У гэным рукапісе спатыкаем чатыры казаньні ў чатырох сшытках, пісаныя на палавіне канцэлярыйнага аркуша на абедзьвюх бачынах. У адным сшытку, на 64-ох бачынах памешчана навука на 17-ую нядзелю па Зялёных Сьвятках. На першай бачыне зазначана, што навука гэта

